

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(38) Люты 1997 February Год выд. 5




месяц Люты на Беларусі



**Спадар Янка ЮХНАВЕЦ — адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа. Ён зьяўляецца аўтарам некалькіх кніг паэзіі. Стойкі незалежнік і беларускі патрыёт.**

**Дарагі Янка! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**

**А. Лукашэнка са сваёй мафіёзнай камандай прадае Беларусь Маскве оптам і па частках...**

**Няўжо беларусам прыдзецца йсьці ў лясы і ўзяўшы зброю ў рукі пачаць крывавае змаганьне за гонар, годнасьць, чэсьць і славу ды поўную незалежнасьць?..**

**І тады з раённых, абласных і краёвых вэртыкальшчыкаў і іх памагатых паляціць пер'е...**

**З заявы беларускіх патрыётаў з Магілёўскае глыбінкі.**

## Нашто Расеі аб'ядновацца з Беларусьсю?

Прапазыцыя прэзыдэнта Б. Ельцына аб далейшай інтэграцыі Расеі з Беларусьсю выклікае нямала розных пытаньняў, адказаў на якія няма ў пасланьні расейскага лідэра.

Перад усім не зразумела, якая канчатковая мэта гэтага збліжэньня — будзем зьлівацца ў адну дзяржаву ці агранічымся саюзам двух краін, захоўваючы хоць-бы фармальна свой сувэрэнітэт. Калі, як аб гэтым мроіць А. Лукашэнка, Расея і Беларусь усё-ж аб'яднаюцца, дык на якіх умовах? Будзе ўтворана новая дзяржава са сваёю назваю, сьцягам, гэрбам, гімнам? Ці Беларусь увойдзе ў састаў Расеі, як суб'ект Фэдэрацыі (ці шэсьць суб'ектаў — па ліку беларускіх вобласьцяў...)

Не зусім ясна і тое, нашто прыдалося ставіць пытаньне аб аб'яднаньні якраз цяпер. Чым нам не да спадобы цяперашні ўзровень інтэграцыі з Беларусьсю? Таможні і кантролю на граніцах няма...

Чаму заміж узаемнавыгадных адносінаў двух эканомік нам суляць зьліць гэтыя эканомікі ў адну... За гады праўленьня Лукашэнкі беларуская эканоміка безнадзейна адстала ад нашай, рэформы ў краіне не зрушыліся з мёртвага пункту, зарплаты значна ніжэйшыя чым у Расеі, а шматлікія прадукты харчаваньня раздаюцца па картках — савецкая практыка, аб якой мы ўсьпелі ўжо забыцца.

У палітычнай сфэры аб'яднаньне з Беларусяй прывядзе да прыяднаньня да Расеі шасьці новых вобласьцяў «чырвонага паса» і Г. Зюганаву разам з сваім "народна-патрыятычным блёкам" застанецца толькі падзякаваць прэзыдэнта Ельцына за такі падарунак да наступных выбараў.

Староньнікі зьліцьця двух дзяржаў паказваюць гэты крок, як адказ на разшырэньне НАТО... Ці-ж Захад зьбіраецца на нас нападаць? Ці не ў Захада мы просім (і атрымоўваем) эканамічную дапамогу?..

Спробы застрашыць Захад аліянсам з Беларусьсю могуць прывесьці толькі да таго, што Ельцын усё-такі сумее пераканаць "сяброў Біла, Гэльмута і Жака" ў тым, што яны напорыста, нягледзячы на ўсе старанні расейскай палітычнай эліты, пакуль яшчэ ня хочуць верыць, што Расея на самай справе не партнёр і не саюзьнік Захаду, а патэнцыянальны праціўнік.

І тады ў Вашынгтоне, Парыжы і Боне могуць сур'ёзна задумацца ня толькі аб прыёме ў НАТО балтыцкіх краін і Малдовіі, але і пераўтварыць Украіну ў стратэгічны бастыён супраць Расеі. А вось гэта ўжо станецца для Крэмля сапраўднай геапалітычнай катастрофай. І ўся энэргія, усе сілы нашай вялікай дзяржавы пойдуць тагды на супрацьстаяньне з новым праціўнікам, які будзе апірацца на дыпляматычную, эканамічную і магчыма нават ваенную падтрымку самых багатых дзяржаў сьвету...

Калі збліжэньне Расеі і Беларусі пойдзе па сцэнарыі Лукашэнкі і будзе прадстаўлена Масквой як "адэкватны адказ" на разшырэньне НАТО, апісаная вышэй перспэктыва можа аказацца зусім не фантазіяй.

*Так разважае спадар Максім Юсін на старонках маскоўскіх "Известия"-ў.*

## Congratulations Сьвятлана!

Швэцкі Пэн-клюб прызнаў літаратурную прэмію Сьвятлане Алексіевіч. Гэтыя прэміі прызнаюцца ня толькі за талантныя творы, але і за мужнасьць тварэньня пры аўтарытарным рэжыме.

Цэрымонія ў Стокгольме была сьвяточнай і выразнай. Вядомыя акторы чыталі ўрыўкі з кнігі Алексіевіч "Чарнабыльская малітва". Восем краін рыхтуюцца выдаць гэтую кнігу на сваіх мовах, а Менскае выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдаваць гэтую кнігу забараніла...

Разам з прэміяй С. Алексіевіч атрымала прапазыцыю пажыць і папрацаваць у Стокгольме ў вільлі, якая аддаецца ўсім лаўрэатам на паўгода. «Магчыма выкарыстаю гэтую нагоду і пажыву тут некалькі тыдняў, каб перавесьці дыханьне, — сказала Сьвятлана. А далей новая аповесьць, гэтым разам крыху іншага профілю...»

 



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Svetlana Aleksiyevich: Witness to Chernobyl

Svetlana Aleksiyevich's collection "Chernobyl Prayer: A Chronicle of the Future" will be published in the January, 1997, issue of "Druzhba Narodov" magazine.

**By Olga Martynenko**

*Moscow News*

As were her previous works ("War Does Not Have a Woman's Face," "Zinc Boys," "Enchanted by Death," and "Last Witnesses") the Belarusian writer's new book is based on eyewitness accounts. It also touches one of society's raw nerves and undermines the reader's complacency. Aleksiyevich worked on "Chernobyl Prayer" for more than three years, interviewing countless people who were and remain to this day directly affected by the 1986 nuclear catastrophe. One hundred and five people are the heroes and authors of her book, which is written like an oratorio in which a "single human voice" is heard on a par with the choruses – folk, soldier, and children.

"I decided beforehand," says Aleksiyevich, "that I wasn't going to write about Chernobyl, but about the world of Chernobyl. I researched this idea for a long time and read everything I could find. As I wrote in the preface, Chernobyl can't be compared to any catastrophe mankind has ever suffered. It is more than a catastrophe; it's the beginning of a new history. You find yourself in another dimension, in another time, which man has no instruments for measuring.

**MN: Was Belarus, your native land, the center of your attention?**

**Aleksiyevich:** No. Chernobyl is a national problem least of all. You think totally differently about things there. You feel closer to being an ant; you conceive of people who would shoot someone because of the shape of their nose as nothing more than lunatics.

Of course the radiation from Chernobyl has become a national misery for Belarus and its population, one with which they have been left face to face.

Today, one in five Belarusians (including 700,000 children) live in contaminated territory. That's 485 towns and villagers; 70 have been pulled down. People are living in the aftermath of a nuclear war they never noticed.

Recently I went to get a visa at the Swedish Embassy and found out that Swedes are worried about the radiation too. And our president, Alexander Lukashenko, without any scientific experts, as he put it, went to an affected region, saw that nothing was out of the ordinary: "Look, they're growing potatoes, look how much land is idle."

We can't comprehend this event, it's outside traditional knowledge, it's outside habitual culture. For mass consciousness, what is ten years? But this event was on a biblical scale.

**Did the people you interviewed speak freely?**

It wasn't that important whether they wanted to speak or not, although in principle our people have a communal, collective view of the world. The main thing was to ask the right questions. Getting to the real truth was a lot of work. When you meet someone for the first time, they just start telling you what they've read in the newspapers. It's a built-in response and maybe it's a defensive reaction. When you start talking about Chernobyl with survivors, you come up against the problem of problems: how much can a man bear before he goes out of his mind? I was mainly interested in capturing the feel of their accounts. I tried to avoid inventing emotions when I wrote down their stories. I knew that I had to both catalogue all the suffering pouring out at me (which is the essence of our culture and our history) and gain new knowledge. How much can you show people whose only experience is suffering?

**What did you learn from all this?**

That I don't know the answer; I'm a person from the modern world too. The truth and spirit of the times are a result of the truth in each of us. The hard part about a documentary is correctly choosing an event upon which human life may hinge. This event is usually death. One of the heroes of the books is convinced, not without reason, that death is the most just thing in the world – no one can buy their way out of it.

**Your heroes talk about the fall in the value of human life in a post-Chernobyl world. One of the liquidators recalls that "they threw us in there like sand on a radiator." Victor Astafyev used similar words to describe war: "Incompetent generals scattered their troops about like sand."**

Of course like sand. The state deployed 210 units, 340,000 servicemen, to fight the catastrophe. There were 600,000 people involved in all, and later most of them died, many by taking their own lives. One of them says: "I know I'll die, but how?" They died horribly. Academician Ilyin, who heard about my book, let drop that, well, Aleksiyevich is exaggerating, they didn't all die. Our hearts hardened after the war too: we won, didn't we? Don't take your personal vantage point into account. They used to discuss things from the geopolitical position – now it's from the standpoint of technological arrogance. Do you remember how the headquarters at Chernobyl calculated how many lives would be expended on this or that operation?

**What was the most difficult part about working on the book?**

After what I saw and learned, it would be indecent to talk about my own problems. What are they in comparison to the ordeals of the miners who dug a tunnel under the reactor, naked in 50 degree (centigrade) heat, dragging a cart behind them? Not to mention the children who have already died. About the woman who was evacuated with a small bundle, an icon, and a cat. About the soldiers who returned from Afghanistan to start life anew and the ones who returned from Chernobyl to die.

In Belarus, I tell our young philosophers the Chernobyl theme is the way to enter into the worldly context. All of this is conceived of in extremely superficial terms, the issue is only focusing on anti-communism and genocide. But that's not the whole truth. The people in power, who kept silent about the tragedy, not fretting about other people's lives, were also hostages of the times. It's obvious that they committed a crime, but if we limit it to anti-communism, we'll never understand anything. This is just one layer of the system. That's why my book isn't just about Chernobyl, but about a world of new feelings and a new time, about who we are. At times it seems to me that a whole fantastically unreal movie is swirling around in my head – all these peasants, bums, refugees.

**However strange it may be, your Chernobyl epic has a more hopeful side: love, almost to the point of self-denial, two lonely voices beginning and ending the book.**

They were unexpected. Has there ever been a woman in history who has been told that her husband is nothing more than an object that needs to be decontaminated, and she, pregnant, fights her way through to him at the hospital and stands by him to the awful end? I simply admire these women. I asked one of them how she could be close to someone who is dying such a monstrous, inhuman death. And she said, "How else could I console him?"

# Зноў гучыць старая мелодыя: перашкаджаюць. На гэты раз нейкія "самазванцы"

Назіраючы за пачаткам работы першай сесіі Палаты прадстаўнікоў, міжволі задумваешся: што ж адбываецца? І чым больш разважаеш над гэтым пытаннем, тым мацней ахоплівае пачуццё нейкай, як бы гэта далікатней сказаць, незразумеласці і ненатуральнасці таго, што бачыш. Гэтая няўпэўненасць прасочваецца і ў выступах, выплывае і ў патухлых позірках некаторых удзельнікаў пасяджэнняў.

Самае важнае пытанне тут, безумоўна, такое: "Ці легітымны орган, які распачаў пасяджэнні? Ці прызнаюць яго ў свеце?" Пакуль мы ведаем, што Еўропа лічыць прайшоўшы ў нас рэферэндум незаконным. А значыць, яна не прызнае і ўсе наступствы, якія будуць базіравацца на ім.

Выступаючы на сесіі, старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў заявіў, што трэба "практычна поўнасцю аднавіць дзеючае заканадаўства, заняцца стварэннем новай прававой базы". Як бачым, работа велізарная. А калі яе не прызнаюць у свеце? Які ж сэнс тады займацца ёю? Да таго, у краіне толькі пачалі будаваць прававую базу і на табе, ужо бяруцца "поўнасцю аднаўляць". І, нарэшце, гаворачы словамі камуністаў таго часу, калі іх у Беларусі ўзначальваў Малафееў, — "а ці прыбавіць усё гэта нам каўбасы"?

Замежны фактар знайшоў свае адлюстраванне і неспакой і ў выступленні прэзідэнта. У ім прама сказана, што трэба заваёўваць міжнароднае прызнанне і што зрабіць гэта будзе няпроста. Таму выканаўчая ўлада акажа новым парламентарыям неабходную падтрымку. Мауляў, Міністэрства замежных спраў, замежныя прадстаўніцтвы атрымалі ўжо адпаведныя даручэнні ад прэзідэнта.

Але, думаецца, асноўныя вывады і прычыны, якія ўтрымліваюцца далей, вельмі далёкія ад рэальнасці. Лічыць, што халодныя адносіны да ўлад Беларусі выкліканы "некаторымі самазванцамі", якія даказваюць за мяжой нелегітымнасць новага беларускага парламента, — гэта даволі несур'ёзна. Няўжо ўрады і парламенты Еўропы настолькі наіўныя, што будуць верыць нейкім "самазванцам"? Добра ж вядома, што ў Мінску ёсць пасольствы вядучых еўрапейскіх краін. Яны ўкамплектаваны прафесійнымі спецыялістамі, якія ў стане разабрацца, што адбываецца ў нас і даць сваім урадам дакладную інфармацыю. Так што спасылка на "самазванцаў" — гэта старая песня, пошук новых ворагаў. Вось яны і знайшліся.

І ўжо зусім адарваны ад рэальнасці заклік аб неабходнасці "давесці да міжнароднай грамадскасці сапраўднае становішча спраў у нашай дзяржаве". Дастаткова ўключыць радыё і паслухаць вядучыя радыёстанцыі свету, каб пераканацца, што інфармацыя аб становішчы спраў у Беларусі рэгулярна даносіцца да сусветнай грамадскасці. І менавіта ім, галасам гэтых уплывовых станцый, паўсюдна вераць, а не ведамству Замяталіна. Так што няцяжка здагадацца, як будзе ўспрынята любое тлумачэнне зганадага ведамства.

Ізаляцыя, прычым не толькі палітычная, але і эканамічная, рэальна чорнай хмарай насоўваецца на Беларусь. А пры гэтым ні на якую эканамічную стабілізацыю разлічваць не прыходзіцца. Так што павісае ў паветры галоўнае пытанне, пастаўленае на сесіі прэзідэнтам, — "удасканаленне і рэфармаванне эканомікі". Як без буйных замежных інвестыцый яе рэфармаваць?

У мяне склалася ўражанне, што ні ў Адміністрацыі прэзідэнта, ні ў Палаце прадстаўнікоў яшчэ не асэнсавалі таго, што яны здзейснілі, у які кут, пастку загналі самі сябе. Не разумеюць многія, што так ігнараваць думку вядучых палітыкаў і ўплывовых сіл Захаду, як гэта зрабілі ў Мінску, няпроста абачліва, але і небяспечна... Дыпламатычны тон заяў у Лісабоне, Дубліне, відаць, не расшыфраваны яшчэ ў беларускай сталіцы, ці, мабыць, не так расшыфраваны. Напэўна, "отрезвление" некаторых палітыкаў яшчэ наперадзе.

Андрэй РУСАКОВІЧ.

# New referendum to take place shortly

Member of the interstate economic committee and MP of the 13th parliament Leonid Kozik confirmed that the citizens of Belarus may soon vote in another referendum, this time, on the unification of Belarus and Russia. "It is time for us to decide on the future form of integration between the two countries, which, under Article 17 of the Agreement on Bilateral Cooperation between Belarus and Russia, can be decided only in a referendum," said Leonid Kozik.

# German Foreign Minister criticises Belarusian constitutional referendum

**The German Foreign Minister Klaus Kinkel believes that the treaty on cooperation and partnership between Belarus and the European Union should not be ratified until the Belarusian authorities restore democracy in the country...**

 

"Народная Воля"

# Уроки на завтра,

## или Еще раз о том, что произошло в Беларуси и что ее может ожидать в будущем

Все происходило, словно по отрепетированному сценарию. Центризбирком, обезглавленный и с 15 ноября блокированный сотрудниками Главного управления государственной охраны при президенте, выдает нужные 70,45 процента проголосовавших за президентский проект Конституции. Не дождались окончательных итогов референдума, уже 25 ноября А.Г.Лукашенко проводит пресс-конференцию. Президент не скрывает своего удовлетворения достигнутым результатом. Более того, в своей обычной напористой манере на саммите глав государств и правительств стран—участниц ОБСЕ в Лиссабоне А.Г.Лукашенко заявляет, что референдум "...прошел в полном соответствии с Конституцией и законодательством страны".

26 ноября более ста "здравомыслящих" депутатов Верховного Совета на своем заседании по улице К.Маркса подтверждают обязательный характер референдума по конституционным вопросам. Не выдержав мощного силового давления, дрогнул Конституционный суд и прекратил дело об импичменте президенту. Формально он поступил правильно — несколько депутатов отозвали свои подписи, но почему высокий суд не рассмотрел дело об отзыве подписей? 27 ноября так называемый Верховный Совет или "полупарламент" с нарушением законов формирует Палату представителей Национального собрания и принимает Закон о прекращении полномочий Верховного Совета 13-го созыва.

Правящая элита спешит, стремится придать по сути антиконституционному захвату власти законный характер. В отношении депутатов, которые *не пошли на поклон к президенту, и в целом к оппозиции,* власть, уверовав в *свою безнаказанность,* действует предельно жестко и издевательски. 28 ноября были опечатаны Овальный зал и зал заседаний президиума. Само здание полностью блокируется, находится под усиленной охраной. Депутатов пропустили лишь для того, чтобы они забрали личные вещи. Дальше — больше. 29 ноября в здание Верховного Совета не пускают уже якобы экс-председателя Верховного Совета С.Г.Шарецкого. А 2 декабря депутатам от оппозиции, которые вынуждены были подписывать обходной лист на увольнение, не позволяют пройти дальше вестибюля.

29 ноября более полутора часов держали на морозе и не пускали в здание Верховного Совета сотрудников аппарата. А на рабочем совещании аппарата Верховного Совета, которое проводил новый начальник секретариата Виктор Кучинский, в президиуме вместе с ним находился и начальник Главного управления государственной охраны при президенте господин Тесовец?!! Воистину, в нашем бедном Отечестве управление охраны становится "гарантом Конституции и законности"!

Хотя создается видимость, что власть не очень-то обеспокоена тем, что госдепартамент США, Совет Европы, ОБСЕ, другие авторитетные международные организации, целый ряд государственных деятелей, парламентов и правительств стран мирового сообщества заявили о нелегитимности результатов референдума, все же с этим придется считаться, как бы этого ни хотелось А.Г.Лукашенко. Президент уже почувствовал "отношение" к себе при подписании новой редакции Конституции в Минске и на саммите глав государств и правительств стран—членов ОБСЕ в Лиссабоне. Налицо начинающаяся международная изоляция.

Казалось бы, что толку говорить сегодня о многочисленных нарушениях Конституции и закона о референдуме, когда "результат" известен. Однако об этом говорить стоит, это наш долг и обязанность перед нынешним и будущим поколениями. Справедливость должна восторжествовать. И свое веское слово, надеюсь, наряду с судьями Конституционного суда скажет и Генеральная прокуратура Республики Беларусь.

Прежде всего о незаконности обязательного характера конституционных вопросов вопреки решению Конституционного суда и постановлению Верховного Совета. А как квалифицировать, к примеру, неустановленное и незарегистрированное количество бюллетеней, отпечатанных Управлением делами Администрации президента; абсолютную монополизацию государственных средств массовой информации, когда несколько месяцев подряд шло наглое оболванивание моих доверчивых и терпеливых сограждан; пропаганду в день референдума и даже на избирательных участках.

Почему до 15 процентов уменьшилась итоговая цифра досрочного голосования, если ранее назывались предполагаемые цифры 20—25 и более процентов, а во многих сельских районах 50—70 процентов? Или здесь двойная бухгалтерия? Почему, наконец, явка граждан на избирательные участки 24 ноября после 18.00 вдруг подскочила без малого на 25 процентов? Подобных "почему" можно назвать десятки.

Что же касается финансирования референдума, различных пропагандистских и иных акций, то с полной уверенностью можно сказать — "вот когда пригодились деньги могущественного Ивана Ивановича Титенкова". И все эти так называемые благотворительные взносы на счет референдума не более чем декорация его "всенародной поддержки".

Областные, городские и районные комиссии по референдуму лишь фиксировали окончательные результаты. Практически всей технологией проведения референдума вплоть до подведения его итогов занимались штатные работники управлений и отделов организационно-кадровой работы исполкомов. Именно здесь была одна из реальных "кухонь" референдума. Нужного контроля со стороны немногочисленных наблюдателей за подсчетом голосов не было, их фактически лишили этого права.

Администрация президента, исполнительная власть сделала все возможное и невозможное для достижения необходимых результатов на референдуме. Были созданы штабы и оргкомитеты, информационные группы. Работники Администрации президента, управлений и отделов исполкомов закреплялись в качестве ответственных на референдуме за областями, городами, районами, колхозами, совхозами, предприятиями, вузами и т.д., за каждым избирательным участком. Почти три месяца они, можно сказать, не занимались своими непосредственными делами. Только на командировочные расходы были потрачены многие миллионы рублей государственных средств. Добавьте сюда еще около 10 миллиардов рублей на проведение Всебелорусского народного собрания.

Я считаю, что референдум не решил и не мог решить ни политических, ни экономических, ни социальных проблем страны. Режим личной власти Лукашенко породит лишь массу новых. Стало очевидно, не президент победил. Проиграла страна, проиграла законность и конституционность, проиграла демократия. Будущий политический и социальный кризис не за горами.

Я уверен, что палата представителей в силу своего персонального состава будет не в состоянии вести нормальный законотворческий процесс. Это уже факт. Непонятно также, кого она представляет. Десятки, сотни тысяч граждан, прежде всего Минска и областных центров, не имеют своих представителей в законодательном органе. Да и мировое сообщество вряд ли ее признает, никто не будет с ней иметь дело. Так что с большой долей вероятности можно прогнозировать скорый роспуск палаты.

В белорусском обществе продолжает накапливаться взрывоопасная критическая масса социального напряжения, вызванная постоянным снижением реальных доходов и жизненного уровня населения, низкими заработками, ростом цен, прогрессирующей безработицей и т.п. Несмотря на беззастенчивое промывание мозгов, деформацию массового сознания, при сохранении статус-кво или ухудшении экономической ситуации трудно уже будет говорить о широко рекламируемом "социальном мире". Кредит доверия в одночасье может лопнуть, как мыльный пузырь. За долготерпением людей скрывается огромный разрушительный потенциал нарастающих день ото дня раздражения и недовольства. Люди психологически устали от бессмысленного "бега на месте".

В этих условиях нельзя быть сторонним наблюдателем происходящего. Нет ничего более вредного и безответственного, чем неверие в собственные силы, потеря ориентиров. Оппозиции требуется вдумчивая, кропотливая работа по оценке сложившейся ситуации, нужно извлечь необходимые уроки из собственных ошибок. Попробую высказать некоторые соображения на этот счет.

Прежде всего необходимо практически воплотить в жизнь идею создания мощного деидеологизированного движения в защиту Конституции с широкой социальной базой. Следует учиться говорить с народом, с площадью, как с реальной политической силой. К сожалению, нынешние лидеры демократов, за редким исключением, не имеют навыков организаторской работы с большими массами людей. И здесь не грех поучиться у А.Г.Лукашенко. Можно иронизировать, критиковать грандиозное шоу с участием А.Лукашенко в Могилеве, Гомеле, Бресте, Борисове накануне референдума, его плановые выходы в народ, но они сегодня дают реальную отдачу, формируют образ президента, как народного заступника и благодетеля, борца с мафией и коррупцией, борца с "дерьмократами", которые хотят "бойни и крови".

Надо было идти к людям, особенно в глубинку, областные центры, доходчиво разъяснять позицию Верховного Совета, проводить дискуссии, "круглые столы" и т.п. Однако эта работа ограничивалась в основном стенами Овального зала, депутаты убеждали самих себя. Практически не использовалась и такая форма общения с людьми, влияния на них, как участие в сессиях местных Советов депутатов. А с учетом того, что местная печать, теле- и радиовещание, как и республиканские, "играли" в одну сторону, то Верховный Совет оказался в состоянии полного информационного вакуума. Оппозиционная малотиражная печать и российские СМИ не смогли восполнить этот пробел.

Партиям и движениям следует прекратить внутренние разборки. Сегодня главное не то, что разъединяет, а то, что объединяет. Одной из причин, не позволивших демократической оппозиции использовать ситуацию ноябрьских дней в свою пользу, явилось и отсутствие у нее бесспорного лидера. Это должен быть противовес Лукашенко, человек, не отягощенный грузом политических ошибок, сравнительно молодой, образованный, динамичный, волевой, способный вести открытую дискуссию, теледебаты, сплотить демократическую оппозицию. Исключительно важно, чтобы в такого лидера поверило большинство граждан страны. Но лидера надо растить, на него надо работать, чтобы он мог успешно конкурировать на личностном уровне. И это мне представляется первостепенной задачей. Ведь на референдуме многие даже не пытались вникать в суть вопросов, не читали проектов Конституции, а голосовали за конкретную личность, за Лукашенко. Вот почему и пропаганда на ТВ и радио, особенно в последние дни, была примитивно простой, но доходчивой: если вы за президента, то вычеркивайте то-то.

Верховный Совет при принятии важнейших решений хронически опаздывал, не всегда имел четко выраженную позицию. Это прежде всего назначение даты дополнительных повторных выборов, избрание председателя и членов Центризбиркома, процедура импичмента, потеря своего печатного органа — "Народной газеты". Во многом эти ошибки Верховного Совета в его противостоянии с президентом стали решающими, но отнюдь не в пользу парламента. Конечно, огромную роль здесь сыграло то обстоятельство, что соотношение сил в парламенте было примерно 50 на 50. А отсюда нередко позиция соглашательства, самая откровенная демагогия, чем особенно отличалась пропрезидентская фракция "Согласие". Принципиальные вопросы, которые требовали немедленного принятия, просто забалтывались, откладывались на потом и в конечном итоге не решались.

Были утеряны связи и влияние на местные Советы депутатов, прежде всего на их председателей, депутатский корпус. Несвоевременно и неадекватно отреагировал Верховный Совет на антиконституционный указ президента от 26 декабря 1995 г. N 519, предписывающий создать рабочий аппарат Советов депутатов областного и базового уровней в составе председателя, одного специалиста и водителя. Вот почему запоздалое письмо в адрес областных, городских и районных Советов за подписью С.Г.Шарецкого об утверждении на сессиях структуры аппаратов Советов в соответствии с законодательством и сметы расходов на его содержание не было выполнено, а в абсолютном большинстве Советов даже не рассматривалось. То же самое можно сказать и о других указах президента, направленных на ограничение прав Советов. Самый тревожный звонок прозвучал 11 ноября, когда на совещание в Верховный Совет по вопросам референдума прибыли лишь 35 председателей Советов из 160 приглашенных?!! Не было на совещании по "уважительной" причине даже председателя Минского облсовета А.И.Тишкевича. Неудивительно, что за исключением известных демократов С.Гольдаде и А.Гуриновича большинство отмолчалось. И не случайно в день референдума некоторые председатели Советов предпочли отсиживаться дома. Процесс деформации кадров зашел уже слишком далеко.

Лидеры Верховного Совета переоценили и свое влияние на Москву. В геополитическом плане А.Г.Лукашенко на сегодня вполне устраивает российских политиков, а судьба демократии в Беларуси для них вторична. Не случайно резко отрицательная реакция многих стран—участниц ОБСЕ в Лиссабоне по вопросу соблюдения прав человека в Беларуси, легитимности итогов референдума была критически встречена делегацией России, чем она фактически оказала поддержку Лукашенко. А вице-спикер Госдумы России Сергей Бабурин, побывавший в Минске 5 декабря, пошел еще дальше, заявив, что А.Г.Лукашенко будет первым кандидатом в президенты будущего единого государства! Сегодня очевидно, что "Соглашение об общественно-политической ситуации и о конституционной реформе в Республике Беларусь" было по сути предательством со стороны российских руководителей к Верховному Совету, нарождающейся белорусской демократии, тысячам граждан Беларуси, которые не приемлют диктатуры. К сожалению, не проявили твердости в этот судьбоносный момент для Беларуси председатель Верховного Совета С.Г.Шарецкий и председатель Конституционного суда В.Г.Тихиня.

Наконец, в действиях Верховного Совета не было элемента неожиданности, нестандартных решений. На пленарных заседаниях, особенно на последних, где отрабатывались мнения и оценки, всегда присутствовали представители Администрации президента. Более того, часть депутатов периодически "перетекала" из Овального зала на улицу К.Маркса и обратно. Все происходящее в зале становилось известным Администрации президента, что позволяло ей оперативно вносить коррективы в свои практические действия. Не была в должной мере использована добровольная отставка премьер-министра М.Чигиря, министра труда А.Соснова, заместителя министра иностранных дел А.Санникова. Да и слишком "преждевременно" публично заговорил о нелегитимности референдума председатель Центризбиркома В.Гончар, не предполагая при этом о возможности силового решения вопроса. Именно тактически все было проиграно.

В итоге были обмануты надежды здоровой части Верховного Совета, вставших на защиту Конституции и законности тысяч людей, которые добровольно с 18 ноября приходили на площадь Независимости, чтобы поддержать парламент. Я сам свидетель горьких слез и разочарований. И об этом нельзя забывать, надо оправдать надежды этих людей, которые хотят думать самостоятельно, жить в свободной демократической стране.

Хотел бы сказать и о тех депутатах, которые остались верны своему долгу перед избирателями, не предали свои идеалы и честь. Их унижали, оскорбляли, угрожали, пытались купить, но не смогли отобрать у них достоинство. Не буду называть известных политиков, их и так знают неплохо. Но среди сильных духом парламентариев немало и таких, о ком мы вообще очень мало знаем. Сколько благородства, чистоты и человечности проявили в эти трудные дни, например, Елена Скриган, Тамара Манукова, Виктор Хомич, Михаил Грушевский, Игорь Анушкин, Валерий Щукин и многие другие. Уверен, если у нас есть такие люди, то у нас есть и будущее.

**Георгий ДАШКОВ.**

## МЕТАМАРФОЗЫ ТЫДНЯ

Дзіўныя рэчы адбываліся на мінулым тыдні з доларам на Беларусі. Курс яго за некалькі дзён скочыў ажно да 35 тысяч "зайчыкаў" за адзін "зялёны", а потым за ноч быў "апушчаны" да 22 тысяч. Адначасова з доларам раслі цэны на харчовыя і рэчавых рынках. Долар "апусціўся", цэны ж засталіся на дасягнутай вышыні. Не першы раз назіраем мы на Беларусі гэткі "парадокс". І кожны раз пагаджаемся з бессмяротнымі словамі паэта: "Калі зоркі запальваюць — гэта камусьці трэба..."

ЛіМ.

***Бурнае палітычнае жыццё вяртаецца на Беларусь пасля кароткатэрміновага адпачынку. Мінулы тыдзень стаў багатым на падзеі і паведамленні неардынарныя, нечаканыя і нават сенсацыйныя. Азначае гэта, што ён можа стаць шмат у чым вызначальным, а, магчыма, і пераломным. Не дзіва, што адразу некалькі палітыкаў з цалкам супрацьлеглымі пазіцыямі і пераканаННЯМІ заклікалі ў друку беларусаў не паддавацца песімізму і верыць у блізкую лепшую будучыню. Што ж, і сапраўды, з аднаго боку — закончана фарміраванне двухпалатнага парламента, праведзены істотныя змены ў Кабінеце Міністраў і ўлада ў краіне цяпер практычна ў руках аднадумцаў, якім ніхто і нішто не павінна перашкаджаць працаваць на ўздым эканомікі, з другога боку — чаканай стабілізацыі не відаць, эканамічны крызіс паглыбляецца, апошнія прызначэнні паказалі, што кадравая кладоўка ў прэзідэнта, аказваецца, не бяздонная, свет і суседзі (акрамя Расіі) ад Беларусі адварочваюцца і дапамагаць не збіраюцца, нібыта пераможаная перад рэферэндумам апазіцыя не здаецца, і, галоўнае, народ зноў пачынае цікавіцца палітыкай і эканомікай... Але, бадай, галоўнай падставай для "аптымізму" ўладных структур можа быць бязмежнае цярпенне беларускага народа і яго ж бязмежная вера ў "добрае начальства". Тут ужо апазіцыі "крыць" няма чым...***

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры...

«Пагоня»

# НАС ЯДНАЮЦЬ СУПОЛЬНЫЯ ДУМКІ

**Першай рэакцыяй людзей на навіну пра тое, што 12 сьнежня ў Горадню прыязджае Данчык, была няўпэўненасьць у праўдзівасьці інфармацыі. У рэдакцыі «Пагоні» не змаўкаў тэлефон. Усхваляваныя чытачы цікавіліся: «Гэта праўда? Данчык на Беларусі? У такі час?». Нават за некалькі хвілінаў да пачатку канцэрту тыя шчасьліўцы, якія здолелі набыць білеты, пыталі адзін аднаго: «Ці прыехаў? Ці ня зробяць улады якой правакацыі?».**

Хваляваліся людзі нездарма. Па словах прэзідэнта Беларускай Асацыяцыі Журналістаў Жаны Ліцьвіной, якая была адным з арганізатараў прыезду Данчыка на Беларусь, ёй з сябрамі давялося прайсьці праз шматлікія цяжкасьці, каб цудоўны голас Багдана Андрусішына маглі пачуць на Беларусі. Адміністрацыя шматлікіх установаў, якім належаць канцэртныя залы, адмаўлялася прыняць сьпевака. І гэта нягледзячы на тое, што ўвесь прыбытак ад продажу білетаў ішоў на аплату залы. Арганізатарам канцэртаў казалі, што зараз у краіне ня тая палітычная сітуацыя, каб прымаць Данчыка. Па гэтай прычыне зьменшылі колькасьць запланаваных канцэртаў, адмовіліся ад сьвяточнага выступу на Калядны вечар у Менску. Ні адна беларуская фірма не адважылася быць спонсарам турнэ Данчыка па Беларусі. Прыезд стаў магчымым толькі дзякуючы дапамозе Фонду Сораса.

Але сапраўднага мастацтва, якое пранікае ў душы людзей, не спыніць палітычнамі перашкодамі. Данчык прывез з сабой у Горадню адчуваньне Сьвята. Ён стаў пасланцам сьвету, дзе людзі жывуць нармальным жыцьцём, рыхтуюцца да сьвяткаваньня самых сьветлых і добрых дзён Нараджэньня Хрыстова і Новага году. Калядкі, песьні пра каханьне на беларускай, украінскай, ангельскай, французскай, нямецкай і габрэйскай мовах узрушылі прысутных у залі гарадзкога Дому афіцэраў. Сьлёзы шчасьця былі на вачах і маладых, і старых людзей. Данчык аб'яднаў усіх. Мора кветак і бура апладысьментаў былі яму ва ўзнагароду.

Пасьля заканчэньня канцэрту стомлены, але шчасьлівы Данчык адказаў на некалькі пытаньняў журналістаў.

***- Данчык, што зьмянілася ў Тваім жыцьці з часу першага прыезду на Беларусь?***

- Зараз я працую журналістам. Пяць гадоў таму мне прапанавалі месца на радыё «Свабода». Там патрэбныя былі людзі, якія добра ведаюць беларускую і ангельскую мовы, маюць журналісцкую адукацыю. А мне надакучыла мая старая адміністратыўная праца ў банку. Я згадзіўся. Праўда, прыйшлося пераехаць спачатку ў Мюнхен, а потым у Прагу. Але не шкадую. Працую галоўным прадзюсерам. Падбіраю музычнае аздабленьне да праграмы. Мне гэта адпавядае і, да таго ж, цікава.

***- З якім настроем Ты ехаў на Беларусь?***

- Было адчуваньне няўпэўненасьці. Я ведаў, што сітуацыя зьмянілася. Нам адмаўлялі ў залах. Думаў: калі да мяне так ставяцца, калі няма дзе выступаць, дык на што ехаць? Але мая лепшая сяброўка сказала: «Табе дадзеная такая магчымасьць, якую маюць вельмі мала людзей. Дзякуючы свайму голасу, ты можаш добра кантактаваць з людзьмі, неяк да іх дайсьці.» Яна мяне пераканала.

А мая бабуля, калі даведалася, што еду на Беларусь, напісала: «Едзе авечка на вячэру да ваўка.».

Гарадзенскі канцэрт у мяне быў першым. Я ўжо доўга не сьпяваў, вельмі хваляваўся, калі выходзіў на сцэну. А яшчэ так холадна! Але публіка была надзвычайнай. Так цёпла мяне прынялі. Я застаўся вельмі задаволены.

***- Чаму Ты некаторы час не сьпяваў?***

- Проста не было натхненьня. Трэба, каб хацелася сьпяваць. Я быў на Беларусі ў 1993 годзе. Тады мне прапанавалі выступаць нават на стадыёне. Але ў той час мне не сьпявалася.

***- Можа, Ты зноў засьпяваў таму, што Беларусі зараз вельмі цяжка?***

- Так, напэўна. У мяне такое адчуваньне, што ад апошняга прыезду на Беларусь прайшло ня тры гады, а значна больш. Расчараваньне вялікае. Але нельга складваць рукі. Заўседы трэба мець надзею.

***- Данчык! Напэўна, усе чытачы «Пагоні» прыхільнікі Твайго таленту. Скажы, калі ласка, што-небудзь асабіста ім.***

- Мне вельмі прыемна. Столькі гадоў прайшло, а мяне яшчэ памятаюць. Я думаю, што справа не ў ва мне, а ў супольных думках, што нас аб'ядноўваюць. Шчасьлівы, што такія людзі ёсьць. Усім чытачам «Пагоні» зычу ўсяго найлепшага!

**Дз.Кісель.**

STATE OF MICHIGAN
OFFICE OF THE GOVERNOR
LANSING

JOHN ENGLER
GOVERNOR

January 27, 1997

Dear Friends:

As Governor of the State of Michigan, it gives me great pleasure to congratulate the Belarusian Digest as it celebrates its 5th anniversary.

Michigan is fortunate to count among its population many Belarusian Americans who contribute significantly to our society, and we are proud to be the home of the Belarusian Digest. It is certainly an invaluable resource for Belarusian Americans in our state and throughout the country. I applaud the paper's commitment to excellence, and I hope that it will continue to serve the Belarusian community for many years to come.

Once again, congratulations. Please accept my best wishes for continued success.

Sincerely,

John Engler
Governor

# "САБАЧКІ",

## АЛЬБО Ў ГАРБАТЫХ БАЦЬКОЎ НЕ ЗАЎСЁДЫ ГАРБАТЫЯ ДЗЕЦІ

"Народная Воля"

Неяк на пероне станцыі Масюкоўшчына міжволі стаў слухачом дыялога пра беларускую мову двух пажылых мужчын-дачнікаў. Размову гэту можна назваць хутчэй маналогам, бо ініцыятывай валодаў хударлявы мужчына ў светлым у шырокую вертыкальную палоску, моцна паношаным касцюме з латкамі на той частцы штаноў, якая найбольш "працуе" ў людзей сядзячых прафесій.

Нешта не то ад каршуна, не то ад кобры было ў твары гэтага чалавека: востры з гарбінкай нос, пранізлівыя вочкі і нейкае перыядычнае пасапванне з шыпеннем у час размовы. Гэты непрыемны мужчына эмацыянальна сцвярджаў, што праблема з беларускай мовай увогуле надумана, што ні Шушкевіч, ні Пазьняк не размаўляюць на чыстай беларускай мове, што Купала і Колас былі палякамі і г.д.

Адным словам, з яго мазгоў вылівалася нешта памыйнае, зблытанае і смярдзючае. Адчувалася, ён і сам не зусім упэўнены ў сваіх разважаннях, але такога тыпу людзі звычайна адстойваюць з пенай на вуснах нават абсурдныя ідэі, каб толькі апраўдаць нейкія свае памкненні. Прычым такога роду прамоўцы недурныя людзі: у іх галаве нямала энцыклапедычнага. У любы момант яны могуць эфектна выхапіць нейкі, здаецца, неабвержны, факцік. І калі суразмоўца ненатрэніраваны ў спрэчках, знайсці аргументы няпроста.

Для чаго я пра ўсё гэта павёў размову, ці ж мала такіх мужчын і жанчын больш і менш разумных, чым мой дачнік-філосаф? Вось таму і павёў, што многа. Маўчаць — грэх перад мінулым, цяперашнім і будучым. На жаль, сёння ў нас стварыліся ўмовы для правядзення нахабнай, хоць і не надта смелай (адчуваюць, што на святое ўзнімаюць брудныя лапы) кампаніі. І ажывіліся такія "сабачкі" (няхай ворагі беларушчыны выбачаюць, толькі многіх з іх інакш назваць не магу), як вышэйпамянёны мужчына. Яны гаўкаюць на пероnах, у вагонах цягнікоў і электрычак, нярэдка на старонках газет, асабліва пракамуністычна-"савецкіх". Брэх носіць вецер, і, трэба прызнаць, гэты брэх слухае нямала людзей, а потым некаторыя таксама пачынаюць падгаўкваць. Цікава, што ўвесь гэты псіны гармідар перакідваецца на гісторыю, сімволіку, увязваецца з настальгіяй па часе, калі была танная каўбаса, мора гарэлкі і віна. "Сабачкам" хочацца назад у такую знаёмую будку, на такі надзейны ланцуг...

Людцы добрыя, была ў нейкія часы гэтая каўбаса там-сям, але ж успомніце сваё жыццё, адкіньце ляноту і добра паварушыце звілінамі: а яшчэ што было да гэтай каўбасы? Гарэлка? Наеліся каўбасы, напіліся гарэлкі і ўсё?

Чую загартаваныя, як сталь, галасы: а кнігі, а фільмы якія былі; усе пагалоўна вучыліся!

Не адмаўляю, кнігі былі, і фільмы добрыя былі. Тут трэба пагадзіцца, многа было нядрэннага, хаця нямала і лжыва-ружовага да прымітывізму, як песні пра хрушчоўскую кукурузу і шматлікія тыражы знакамітай брэжнеўскай трылогіі. Так, усе вучыліся. І тут, безумоўна, ёсць свае плюсы. Але ж як часам вучыліся? І як выкарыстоўваўся навуковы патэнцыял? Мо таму цяпер так цяжка прабіцца на сусветны рынак? Мо таму здарыўся Чарнобыль? Мо таму п'ём ваду і ядзім прадукты з усімі элементамі табліцы Мендзялеева?

А як нашы бацькі працавалі ў вёсках? З самай раніцы і да позняга вечара. Усе свае сілы і здароўе аддалі калгасам, а што займелі? Што добрага бачылі? У адной маёй вёсцы Хрыстова, дзе я нарадзіўся, памерла вельмі многа маладых жанчын і мужчын ад рака. І зразумела, адкуль той рак узяўся: паміралі ў асноўным тыя, хто меў справу з ядахімікатамі — працавалі ж без рэспіратараў і фільтруючых павязак. Так цаніліся людзі працы, такая была культура працы. Мой дзядзька, Стась, з сеялкі з хімікатамі свістаў у пальцы, калі трэба было, каб трактарыст спыніў трактар. Дамоў ён прыходзіў у той вопратцы, у якой працаваў, — яна страшэнна смярдзела. Страшэнна і паміраў дзядзька ад рака крыві ў 72 гады, хаця па фізічных даных і моцы арганізма мог бы жыць на гадоў 10—20 больш.

Што там казаць, надта "добра" жылі. Уцякалі, як прусакі, у гарады, уладкоўваліся на цяжкія работы на заводах, тусаваліся ў інтэрнатах, на прыватных мініметрах, чакалі па некалькі дзесяткаў гадоў уласны вугал. Развальваліся маладыя сем'і.

А лячылі нас як? Усё быццам аддавала партыя роднаму народу, ды толькі параўнайце былыя партыйныя апартаменты і лячэбныя ўстановы. Мне крыўдна за майго тату-франтавіка, які перад смерцю мучыўся ў Пастаўскай бальніцы ў палаце, дзе пакутавала разам з ім яшчэ чалавек дзесяць. Мне крыўдна і за маму, якая зусім нядаўна памірала ад інсульту ў Дунілавіцкай бальніцы таго ж Пастаўскага раёна. Няма кропельніц, няма лекаў, дапатопныя абшарпаныя ложкі з панцырнымі сеткамі, якія правісаюць, як гамакі, шчыліны ў вокнах — не хочацца нават усё пералічваць.

"Сабачкі" могуць гаўкнуць: але ж твая мама памерла ў новыя, перабудовачныя часы. А заадно і спытаюць: ці лепш цяпер жывецца пры дэмакратах? Гэта іх любімае пытанне.

Адкажу. Жывём дрэнна, вельмі дрэнна. Ды назад у балота не хачу. І вам, даражэнькія "брахалы", дарогі туды няма, хоць вый, хоць скавычы. А жывём так дрэнна таму, што пакуль у нас не дэмакратыя баль правіць, а анархія і злачыннасць. Яшчэ раз падкрэсліваю — не дэмакратыя баль правіць... Ва ўладных структурах у асноўным усё тыя ж партыйныя няўмельцы рабіць справу, а ўмельцы прыгожа пустасловіць і набіваць кішэні ды бруха за кошт надта любімага народа. Можа, Пазьняк трымае ўладу? Можа, члены апазіцыі папалі ў "вертыкаль"? Ды нікога з іх і блізка не падпусцілі да кіраўніцтва.

І яшчэ. Трэба ўсвядоміць, што манная каша можа зваліцца з неба толькі ў казцы. Большасць народу на "ўра" прыняла ломку прагніўшага ладу, пра які з ірoніяй, гневам і адчаем гаварылі калісьці на кухнях, пра які складалі анекдоты. Прынялі на "ўра", зрабілі некалькі крокаў па бервяне над прорвай і... спужаліся. Хто праходзіў над рэчкай, добра ведае, што звычайна бывае ў такіх выпадках. Самае бесперспектыўнае — рабіць спробу развярнуцца на 180 градусаў і пайсці назад. Адзінае выйсце — перасіліць страх і, балансуючы, ісці наперад.

Дык адкінем жа страх! Мы ж павінны будаваць новы дом. Старога ўжо няма. Мо й не так яго трэба было развальваць, але ж што здарылася, тое здарылася. Няўжо мы бухнемся ў прорву, выкарабкаемся да развалін і з друзу пачнём аднаўляць стары будынак? Хоць і цяжка, хоць і не так хутка, як хацелася б, але трэба будаваць новы дом. А інакш прыйдзецца мерзнуць на вуліцы ці прасіцца ў нечыя пакоі. Хто жыў у чужых людзей і нават у сваіх родных, ведае: усё-такі там ты не гаспадар і паўнацэнна жыць не зможаш, як добра да цябе не адносіліся б.

Верыцца, што будзе ў нас **Новы** дом. Аднак пакуль што мы над прорвай, у той час, калі іншыя — прыбалты, напрыклад, — ужо даўно апынуліся на другім беразе і муруюць падмурак. У іх былі менш падсечаны карані у бацькоўскай зямлі, у мінуўшчыне. У іх ёсць свая мова і культура, якімі яны не пагарджаюць, а шануюць і ўзносяць на новыя вышыні. Толькі тады, калі мы зразумеем нарэшце, што мова, культура, сімвалы продкаў — гэта святое, гэта наш дух, а які дух, такое й здароўе, толькі тады будзе ў нас будучыня. А інакш існаванне і выміранне, паступовая дэградацыя ў чужых пакоях.

Няхай не цешацца ў часовай эйфарыі "сабачкі" і не брэшуць, што народ не падманеш... Народы не раз падманваліся палітычнымі дэмагогамі. Часам народы ў гіпнатычным парыве рабілі нешта антычалавечае. Дастаткова назваць гітлераўскую Германію. І ўсё ж народы вяртаюцца да здаровага сэнсу, які вякамі дыктуецца лепшымі прадстаўнікамі духоўнага і культурнага жыцця чалавецтва. Зразумее і беларускі народ значэнне мовы, якая прарываецца праз вякі.

Скажу адкрыта: для многіх беларуская мова — не матчына мова. Гэта папершае. Па-другое, вытравілі яе ў многіх з душы. Па-трэцяе, многіх зрабілі абыякавымі да ўсяго і нават да свайго і сваіх дзяцей лёсу. Спрацоўвае псіхалогія саўковага чалавека: навошта натужвацца, навошта думаць, за мяне ж ужо падумалі там, наверсе...

І яшчэ: сапраўдныя лідэры павінны весці свой народ да святога па нялёгкай дарозе ў рай, а не прывіваць ляноту і шукаць лёгкія сцяжынкі ў пекла.

Адхлыне гэта масавая хваля, якую ўзнялі ўчарашнія барацьбіты за камунізм. Яна выплеснула на зямлю ўсё, што накапілася пад прыгожай знешне абалонкай: крывадушша, падман, абыякавасць, нахабнасць. Адхлыне несумненна! І пачнуць у душах выспяваць — і яны выспяваюць — новыя пачуцці, новыя памкненні, толькі трэба павярнуцца тварам да сваіх далёкіх продкаў, адчуць іх дух, іх культуру. І будзем мы жыць, як жывуць людзі ў цывілізаваных краінах: цаніць, шанаваць сваё і ў той жа час дружыць з іншымі, паважаць іхняе. А не так, як было ў Саюзе: штодзённа талдычылі савецкаму люду аб самым лепшым у свеце грамадстве, аб інтэрнацыяналізме і ў той жа час трымалі сваіх грамадзян у ізаляцыі і ў іншых дзяржавах бразгалі зброяй.

Нешта падобнае прапагандуюць і сёння староннікі аб'яднання трох славянскіх народаў. У імя чаго? А як быць з іншымі славянамі, мовы якіх таксама блізкія да той жа беларускай? А як быць з неславянамі? Прабачце, але тут аддае фашысцкім душком! Яднанне з рускімі падразумявае аб'яднанне з Расіяй. А ў Расіі жывуць чэчэнцы, ненцы, калмыкі і г.д., і г.д. Няўжо мы хочам такога яднання? Няўжо будзем даказваць разам са "старэйшым братам", што Чэчня па канстытуцыі Расія? А потым пачнём даказваць, што "русский язык" — гэта самая магутная мова і чэчэнцы ці хто іншы без яе, як абаранак без дзіркі. Мяне асабіста такая перспектыва не радуе. А дружыць я гатоў з чалавекам любой нацыянальнасці, толькі без усялякіх штучных аб'яднанняў і новых Саюзаў з рычагамі кіравання з Масквы.

Цяжкія выпрабаванні чакаюць беларускі народ, бо ў многіх з нас за плячамі гарбы савецкай сістэмы. Але цешыць сэрца адна думка: у гарбатых бацькоў не заўсёды гарбатыя дзеці.

А "сабачкі" няхай брэшуць, на тое яны і сабачкі. Ды прыгледзьцеся: хвасты ж у іх падціснуты.

**Янусь МАЛЕЦ**

**г.Мінск.**

***P.S.*** *Напісаў артыкул і задумаўся: а ці не злосна выказаў свае думкі? Ну, добра, няхай такія людзі, як філосаф-дачнік, шыпяць, злуюцца, але навошта прыпадабняцца да іх? Тым больш што многіх з іх проста нельга назваць "сабачкамі", паколькі ў іх такія перакананні, такое разуменне, такая вера. Дык чаму яны не павінны мець права выказацца, даказаць нешта другім? А раптам сам памыляюся? А раптам памыляюцца вялікія мысліцелі, якіх, магчыма, занадта абагаўляюць звычайныя людзі? Столькі ж разумнага, пераканаўчага ўкладвалася на працягу многіх вякоў у чалавечыя мазгі, а вазок стаіць на тым жа самым месцы, і нават над планетай Зямля павіс прывід глабальнай катастрофы, пасля якой ужо будзе ўсё роўна, на якой мове размаўляць і пад якім сцягам жыць. Можа, усе беды чалавецтва, войны, рэвалюцыі, грамадзянскія ўзброеныя канфлікты здараюцца з-за няўмення спрачацца без злосці, без прымянення зброі і кулакоў, з-за няўмення засумнявацца? Можа, самае страшнае, што ў размовах, у спрэчках, у выступленнях з трыбун і ў прэсе мала хто асмеліцца прызнацца ў пакутных пошуках ісціны? Усе ведаюць, як жыць, як паступаць у нейкіх канкрэтных сітуацыях, павучаюць іншых...*

*Як усё няпроста ў жыцці. Святло і цемра. Злосць і дабрыня. Радасць і гора. Смех і плач. Багацце і беднасць. Навошта жывём і змагаемся? А што, калі даць чытачам магчымасць паразважаць на старонках "Народнай волі" над пытаннем: "Ці спасціглі мы ісціну жыцця?"*



**Харашо, что так званный белорусский Саша — наш советский, русский мужик... Даеш об'единение под моей больной камандой!!!**

# НЯ Ў ЧУЖЫХ ЖАБРАВАЦЬ, А СВАЁ БУДАВАЦЬ

Рэлігійныя й царкоўныя справы цяпер раз за разам закранаюцца на бачынах прэсы ў Беларусі, хоць, нажаль, нічога з гэтага ня высьняецца, а, наадварот, становіцца яшчэ больш заблытаным і незразумелым.

Ды й ня дзіва, бо голас маюць толькі прадстаўнікі чужынскіх эклезыяльных структураў, а думцы запраўднае нацыянальнае Царквы, г.зн. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, няма мейсца.

Ня ўсё з гэтых блытных матарыялаў даходзіць за мяжу, але нядаўна да нас трапіў тэкст зьмешчанага ў "Народнай Газэце" зь 17-га-19-га жніваня г.г. інтэрв'ю журналіста Юрага Чыгіра з прадстаўнікам "адраджэнскага руху" ў Беларускай (чытай Расейскай) Праваслаўнай Царкве ў Краі а. прат. Юрым Латушкам, а зь ім разам і зь ведамым зь ягоных публікацыяў на рэлігійныя, ці царкоўныя тэмы доктарам гістарычных навукаў Леанідам Лычом.

Як павялося ўжо і гэтым разам гутарка йшла найбольш праз малебную мову, мала кранаючы запраўдныя прычыны ненармальнае зьявы царкоўнае варожасьці ня толькі да мовы дзяржаўнага народу Беларусі, але й да самое ягонае дзяржавы.

Абодвы прадстаўнікі як-быццам нацыянальных кірункаў у рэлігійным жыцьці Краю, што давалі інтэрв'ю, рабілі ня вельмі ўдалыя экскурсыі ў гісторыю, каб знайсьці аб'ектыўныя тлумачэньні на тое, што ў нас рабілася й робіцца гвалтам.

У запраўднасьці-ж усё іхнае мудрагельства было скіраванае на тое, каб адвесьці ўвагу чытачоў ад няхітрае думкі на здаровы розум, што дарэмна гаварыць праз нашую родную мову ў Царкве, ідэя й сэнс існаваньня якое ўрабоўліваньне народаў і зьнішчэньне іхных Богам дадзеных асаблівасьцяў, або, проста кажучы, духовае народагубства.

Доктар Леанід Лыч, як цывільны чалавек, займаў у інтэрв'ю другое да духоўнае асобы мейсца й, гаворачы нямала, у тым ліку й праз упадабалую яму вунію, нічога памятнага, аж пакуль не падыйшоў канец гутаркі, не сказаў, але аб гэтым пазьней.

Айцец жа Латушка спрытна вяславаў у моўным пацёку, каб і чытачам праведным выдацца, ды й няправядным зьверхнікам ня ўвінавацііцца.

Перш за ўсё зь ягоных словаў ствараецца ўражаньне, што на ўсім сьвеце ёсьць толькі адна праваслаўная царква, што ўся згодна моліцца й размаўляе ўскрозь на адной царкоўна-славянскай мове й таму гэтая царква, пэўна-ж, расейская.

Неазнаёмленаму з гэтым пытаньнем чалавеку можа й у галаў ня прыйсьці, што на зямлі здаўна ёсьць больш дзясятка нацыянальных праваслаўных цэркваў і кожная зь іх карыстаецца мовай або дзяржаўнага, або таго народу, сярод якога дзее.

Значыцца ніякае грэблівасьці да краёвае мовы, або ейнае забароны ў якой колечы, апрача расейскае, царкве няма й быць ня можа.

Але асьцярожны айцец затуманеным адказам паймкнуўся ўсьцерагчыся ад наступнага пытаньня, а гэта: чаму, калі іншыя народы маюць свае нацыянальныя (аўтакефальныя) праваслаўныя цэрквы, мы, праваслаўныя беларусы, гэткае царквы ня маем.

Бо, каб, крый Божа, гэтае пытаньне больш дазнаны ў царкоўных справах, ці найняты ў іншай газэце, журналіст паставіў, давялося-б сказаць праўду, што мы на Бацькаўшчыне пазбаўленыя роднае, чуткае да нашых нацыянальных патрэбаў і бедаў, Праваслаўнае Царквы ня Божым, ці людзкім правам, а маскоўскім гвалтам.

Замест гэтага ён пакіраваў гутарку на палоханьне кананічнымі сьляпымі вулкамі, зь якіх, каб займець сваю царкву, няйнакш як бяз сусьветнага рэфэрэндуму, выбрацца ня можна.

Існаваньне аўтакефальных нацыянальных цэркваў і гісторыі іхных утварэньняў сьветчаць, аднак, што гэта й ёсьць правільны лад пабудовы Хрыстовае Царквы на зямлі.

Ды не ў канонах, зрэштай, справа бо айцец ведае, але, калі ня пытаюць, ня кажа, што колькі-б тых рэфэрэндумаў і згодаў ад іншых цэркваў ня было, Расейская Праваслаўна Царква на беларускую аўтакефалію не дазволіць, бо праз гэта трэба было-б адмовіцца ад ідэі й сэнсу ейнага йснаваньня як духовага рухавіка маскоўскага імпэрыялізму.

Замест таго ён пажаліўся, з аднаго боку, на нястачу нацыянальна сьведамых сьвятароў, а з другога, заявіў, што ня справа Царквы займацца нацыянальным адраджэньнкем, бо гэта, быццам, другараднае й вернікаў, выглядае, можна весьці ў райства на небе навучаючы адракацца нацыянальнае духовае спадчыны й гэтым ламаць Божыя запаведзі.

На гэтую заяву прадстаўніка "адраджэнскага руху" ў Экзархаце РПЦ на Беларусі доктар Лыч запярэчыў, што абыякавасьць да нацыянальных патрэбаў рэч нармальная, стаўляючы ў прыклад ролю Расейскае Праваслаўнае Царквы ў станаўленьні маскоўскага народнага сьветапогляду.

Ягоныя словы варта тут паўтарыць:

"*Не сакрэт, Руская праваслаўная царква адыграла велізарнейшую ролю ў справе нацыянальнага выхаваньня, кансалідацыі рускага народа, ва ўмацаваньні дзяржаўных пачаткаў ў жыцьці краіны. І сёньня Руская праваслаўная царква Расіі бярэ чынны ўдзел ў дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы, адкрыта выказваецца за паглыбленьне інтэграцыі ўсходнеславянскіх краін*".

Шкада толькі, што ўсьлед і ён жаліцца:

"*А ў нас праваслаўе і слова баіцца сказаць на карысьць дзяржаўнага сувэрэнітэту, мала што робіць, каб наблізіць сваю паству да роднай ёй мовы*"...

Дык, ці не пара была-б перастаць жабраваць ласкі ў тых, хто яе, із свае натуры, ня дасьць, а ўзяцца як адзін за ўзнаўленьне свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што выканае Ейную ролю ў нацыянальным жыцьці?!

ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ Б.Шчарыч

# "АДНАВІЦЬ УСЁ Ў ХРЫСЦЕ"

28 верасня ў Мінскай Катэдры адбылося ўрачыстае адкрыццё першага дыяцэзіяльнага Сіноду архідыяцэзіі Мінска-Магілёўскай і Пінскай дыяцэзіяй. Была праведзена вялікая праца галоўным айцом Сіноду Кардыналам Казімежам Свёнткам і Кардынацыйнай Камісіяй для таго, каб Сінод пачаў сваю работу. Прадстаўнікі з кожнай парафіі абодвух дыяцэзій з розных гарадоў і вёсак прыехалі ў Мінск, каб разам са сваімі пастырамі і кіраўнікам Каталіцкага Касцёла Беларусі ўдзельнічаць у святочнай Імшы, прысвечанай адкрыццю Сінода. І канешне, такая вялікая падзея не магла быць пакінута без увагі ганаровых гасцей, тых, хто сваім пастырскім служэннем і малітваю удзельнічаюць у адраджэнні веры на беларускай зямлі і падтрымліваюць тую вялікую справу, якую пачаў Кардынал Казімеж Свёнтэк, склікаючы першы дыяцэзіяльны Сінод. На ўрачыстасць прыехалі Яго Эмінэнцыя апостальскі нунцый ксёндз-арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, Яго Эмінэнцыя ксёндз-біскуп Аляксандр Кашкевіч, біскуп Гродзенскай дыяцэзіі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, архімандрыт Сяргей Гаек, апостальскі візітатар для грэка-католікаў на Беларусі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі. Ад беларускіх улад, якія таксама праявілі зацікаўленасць да Сіноду, на ўрачыстасці прысутнічаў Старшыня Савета па правах рэлігіі пры Кабінеце Міністраў Аляксей Жыльскі.

Адкрыццё Сіноду - гэта асаблівая ўрачыстасць па сваёй значнасці і важнасці. Таму асаблівай была і Святая Імша, якая акрамя звычайных літургічнай і эўхарыстычнай частак уключала ў сябе шмат хвалюючых момантаў, неабходных для таго, каб святары і вернікі адчулі сябе ўдзельнікамі той вялікай справы, якая распачыналася. На пачатку Святой Імшы Кардынал у звароце да вернікаў падкрэсліў, што Мінская Катэдра, ў якой адкрываецца Сінод, выбрана невыпадкова, бо гэтая святыня, дзе яшчэ вядуцца рэстаўрацыйныя работы, з'яўляецца сімвалам Каталіцкага Касцёла на Беларусі, які адраджаецца.




Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі зачытаў Прывітальны ліст ад Святога Айца Яна Паўла II, скіраваны да ўдзельнікаў Сіноду. Людзі слухалі словы Святога Айца стоячы, выказваючы такім чынам пашану і ўдзячнасць за тое, што першаіерарх Каталіцкай Царквы сваімі думкамі і малітвамі прысутнічае разам з імі.

У сваім пасланні Папа высока ацаніў адказную і пачэсную справу, якой з'яўляецца Сінод, пажадаў ксяндзу-кардыналу, святарам, законнікам і законніцам, свецкім верным усялякіх дабротаў, а таксама выказаў пажаданне, каб Сінод выпрацаваў канкрэтныя крокі да хрысціянскай салідарнасці, умацаваў братэрскую еднасць з іншымі партэкулярнымі Касцёламі, паспрыяў развіццю экуменічнага дыялогу.

Распачынаючы працу кожнай важнай справы, Касцёл заўсёды просіць дапамогі Святога Духа, таму падчас Імшы усе звярнуліся да Яго ва ўрачыстым спеве "Боні крэатор". Прагучала вызнанне веры, а непасрэдныя ўдзельнікі пленарных паседжанняў Сіноду замацавалі гэтае вызнанне сваім подпісам на паперы, бо менавіта яны нясуць адказнасць перад Богам і Касцёлам за праўдзівы пераказ веры. У апеку Будслаўскай Божай Маці, Заступніцы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, былі аддадзены справы Сіноду ў асаблівым акце аддання.

У сваім казанні Кардынал звярнуў увагу вернікаў на асноўную зада-

"дыялог" № 11 /32/.

чу Сіноду - “Аднавіць усё ў Хрысце”. Менавіта гэтыя словы былі вынесеныя як дэвіз на адкрыццё Сіноду. Аднавіць усё ў Хрысце, як духоўнае жыццё, так і ўсе сферы дзейнасці чалавека, бо толькі з Хрыстом чалавек будзе рухацца наперад па шляху праўды і любові.

У канцы Імшы перад словам архіпастыра і ўрачыстым блаславенствам, былі пасвечаныя і раздадзеныя ружанцы і свечы прадстаўнікам усіх парафій абодвух дыяцэзій. Гэтыя свечы і ружанцы з'яўляюцца знакам малітоўнай і практычнай еднасці усіх удзельнікаў у справах распачынаючага сваю працу Сіноду. Пры запаленай свечы на ружанцу людзі будуць маліцца ў сваіх парафіях ў інтэнцыі Сіноду.

Са словамі прывітання звярнуліся да ксяндза-кардынала і ўсіх удзельнікаў ганаровыя госці урачыстасці. Першым прывітаў і павіншаваў усіх Апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі. Ён падкрэсліў, што дзесяць гадоў таму ніхто і падумаць не мог пра Сінод, таму магчымасць правядзення Сіноду сёння - вельмі вялікае дасягненне. Нунцый назваў вялікім дасягненнем часу і прысутнасць на адкрыцці Сіноду Праваслаўнага Мітрапаліта, бо бачыць у гэтым збліжэнне дзвюх Цэркваў. “Касцёл, які жывеш і працуеш на Беларусі, устань і ідзі наперад!” - такі заклік накіраваў Апостальскі нунцый да ўсіх вернікаў Каталіцкага Касцёла нашай краіны ў канцы сваёй прамовы.

З прывітальным словам да ўсіх удзельнікаў урачыстасці звярнуўся Патрыяршы Экзарх усея Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Ён адзначыў, што пры адраджэнні духоўнага жыцця “заканамерным стала з'яўленне ў Царкве новых праблемаў і клопатаў”, але дзеля імя Божага і славы Яго Царква Хрыстова “паклікала памнажаць “адзінства духа ў саюзе міру” (Еф 4,3). “І на гэтым шляху да аднадумнасці і аднадушнасці ў вызнанні Езуса Хрыста ... мы павінны захоўваць у розуме і ў сэрцы Яго словы, звернутыя ў малітве да Нябеснага Айца: “Няхай будуць усе адно: як Ты, Ойча, у-ва Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць у Нас адно, - каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне” (Ян 17,21),”- сказаў Мітрапаліт Філарэт, выказваючы гэтымі словамі перад усімі вернікамі Каталіцкай Царквы гатоўнасць Праваслаўнай Царквы Беларусі да братэрскага дыялогу і супрацоўніцтва ў справах прапаведвання Хрыста. Мітрапаліт Філарэт падкрэсліў, што з цікавасцю будзе назіраць за працаю Сіноду “як за праявай саборнага царкоўнага розуму” і выказаў спадзяванне, што абедзьве Царквы, Каталіцкая і Праваслаўная, зробяць усё магчымае, каб дасягнуць лепшага ўзаемапаразумення, знойдуць “цвёрдую аснову дзеля таго, каб наблізіць жыццё нашага народа да Святога Евангелля і самім быць прыкладам у выкананні запаведзяў Хрыста Збавіцеля”.

Арцыбіскуп Аляксандр Кашкевіч, пастыр Гродзенскай епархіі, у сваім звароце да ўдзельнікаў урачыстасці падкрэсліў салідарнасць вернікаў сваёй епархіі з той вялікай справай, якую распачаў ксёндз-кардынал Казімеж Свёнтэк. Арцыбіскуп Аляксандр Кашкевіч параўнаў скупёны вакол свайго Пастыра Касцёл Божы з хрысціянскімі абшчынамі IV веку, “якія, пасля заканчэння перыяду пераследаваннаў, з новымі сіламі і сведчаннем прысутнасці свайго Госпада павінны былі нанава знайсці сваё месца ў грамадстве”. “Так, як калісьці, так і сёння грамадства чакае Добрую Навіну, і Хрыстовы Касцёл, які адраджаецца, мае сваім заданнем ... заспакоіць прагу праўды людзей, сярод якіх ён жыве”, - сказаў арцыбіскуп.

Сваё прывітанне з нагоды адкрыцця Сіноду зачытаў і архімандрыт Сяргей Гаек, апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі, дзе адзначыў, што “Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква выказвае сваю гатоўнасць да ўсялякага супрацоўніцтва ў справе новае евангелізацыі і звяртае аб сваёй малітоўнай падтрымцы для плённай працы Сіноду.”

Асаблівае ўзбуджэнне ўсіх удзельнікаў вызваў той момант Святой Імшы, калі блаславіць людзей на плённую працу з кардыналам быў запрошаны і Праваслаўны Пастыр Мітрапаліт Філарэт. Кардынал Беларусі Казімеж Свёнтэк і Патрыяршы Экзарх усея Беларусі разам узнялі рукі для агульнага бласлаўлення. Нягледзячы на тое, што знакі крыжа былі зроблены імі па-рознаму, усе адчулі ў гэтым акце новы знак часу - заклік да братэрскай любові і дыялогу.

Сінод, які адкрыўся такім цудоўным актам прымірэння, павінен прынесці вельмі значныя і багатыя плады для ўсіх хрысціянаў Беларусі. Многія вернікі зразумелі, што прымірэнне - гэта ўжо не толькі падзея і пажаданне, але і вельмі адказная задача, якая стаіць сёння не толькі перад галоўнымі пастырамі, але перад кожным хрысціянінам.

*Тацяна Шымковіч*

**Міхал Мінцэвіч**

# Гісторыя арлянскай сінагогі

Орля — колішняе мястэчка — павінна ганарыцца сваім мінулым. Тым часам дбайнасць пра помнікі даўніны нагадвае тут выдалянне зубоў!

На пачатку XVI стагоддзя, у выніку рэпрэсій у краінах Заходняй Еўропы, пачаўся масавы наплыў яўрэяў у Польшчу. Гэты перыяд называюць „залатым стагоддзем" у гісторыі яўрэяў. У той час Польшча была самым вялікім яўрэйскім цэнтрам у свеце.

У Орлі яўрэйская гміна — кагал — узнікла на пераломе XVI і XVII стагоддзяў. Паводле перапісу ад 1616 года было ў мястэчку 17 яўрэйскіх дамоў і першая драўляная бажніца. У 1655 годзе ў Орлі жыло 540 яўрэяў, у 1676 годзе на агульны лік 229 жыхароў было 104 іудзеяў, а ў 1716 годзе — 103. Каля 1754 года жонка Радзівіла прадала яўрэям кальвінісцкі збор, які быў перабудаваны на бажніцу, а потым стаў Вялікай Сінагогай — галоўнай бажніцай у кагале. У 1765 г. арлянскі кагал разам з навакольнымі вёскамі налічваў 1358 паслядоўнікаў Майсеевага веравызнання і быў удвая большы за беластоцкі.

Ліберальныя законы і прывілеі стваралі яўрэям спрыяльныя ўмовы для адносна спакойнага і стабільнага жыцця. У 1795 годзе, пасля падзелаў польскай дзяржавы і падзення паўстання Касцюшкі, Падляшша дасталася Прусіі і ў 1796 годзе Орля апынулася ў межах Новаўсходняй Прусіі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай мяняецца юрыдычнае становішча яўрэяў. У 1799 годзе ў Орлі раптоўна ўпала колькасць жыхароў мястэчка. На агульны лік 486 жыхароў былі ўсяго 102 іудзеі. Яўрэі ў хуткіх тэмпах асіміляваліся і раствараліся ў хрысціянскім грамадстве.

У 1807 годзе, у выніку Тыльзіцкага міру, Орля адышла да Расеі. Мястэчка налічвала тады 1586 жыхароў, у ліку якіх былі 1102 іудзеі. На тэрыторыі Каралеўства Польскага пад Расеяй юрыдычнае і эканамічнае становішча яўрэяў стала ўскладняцца. У 1835 годзе былі аб'яўлены „зоны пасялення", якія тысячы яўрэяў заставілі памяняць месца жыхарства. Гэта выклікала напружанне паміж паслядоўнікамі іудаізму і хрысціянства. У 1847 годзе арлянскі кагал налічваў 4436 вернікаў, у 1878 годзе — 1812, а ў 1897 — 2310.

У міжваенны перыяд у кожным кагале Беласточчыны існавалі многія школы і палітычныя арганізацыі, якія выхоўвалі шматлікіх яўрэйскіх актывістаў. Арлянскія яўрэі былі членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, некаторыя дзейнічалі ў Беларускай рабоча-сялянскай грамадзе. Сужыццё праваслаўных, католікаў і іудзеяў у прынцыпе было карэктным. Яўрэі карысталіся шэрагам прывілеяў. Беласточчына была „сэрцам сусветнага яўрэйства", паколькі іудзеі складалі больш за палову жыхароў падляшскіх мястэчак.

У 1921 годзе на лік 1518 жыхароў Орлі яўрэі складалі 1167 чалавек, а ў 1929 годзе ў ліку 3000 мяшчан было 2200 яўрэяў. Пасля 17 верасня 1939 года у Орлі жыло 1450 яўрэяў, а ў 1941 годзе — дзве тысячы. У час нямецкай акупацыі яўрэйскае насельніцтва спачатку было зачынена ў мясцовым гета, пазней перасялена ў гета ў Бельску-Падляшскім, затым перавезена ў лагер смерці ў Траблінцы.

Будынак колішняй сінагогі некальні разоў перабудоўваўся і разбудоўваўся. На пераломе XVIII і XIX стагоддзяў набыў ён класіцыстычны выгляд. Выдзелены былі асобныя залы для жанчын (бабінцы) — пачаткова былі яны драўляныя, але ў палове XIX стагоддзя па абодвух баках сінагогі даставілі мураваныя. У канструкцыі сінагогі пераплятаюцца рэнесансныя архітэктурныя ўзоры (прамавугольная зала, вузкія ўваходы, адсутнасць акон на першым паверсе) з элементамі позняга барока ўнутры бажніцы.

У арлянскай сінагозе прыменены былі двухнефавыя сістэмы, а ў XVII стагоддзі ўзнік т.зв. стыль дзевяціпольны, калі пасярэдзіне залы, на дзевятым полі стаялі чатыры слупы, якія замыкалі біму — узвышша для чытання Торы. Была яна размешчана цэнтральна на восі ўсход-захад і адгароджана невялікім чыгунным плоцікам. Біма і арон-гакадэш („каўчэг запавету" — святая алтарная шафа) стваралі адну, непадзельную цэласць інтэр'ера бажніцы. У „каўчэгу запавету", які знаходзіўся на ўсходнім баку сінагогі, захоўваліся скруткі Торы. Быў ён завершаны разьбой з выявай каменных скрыжаляў з дзесяццю запаведзямі. Арон-гакадэш быў багата ўпрыгожаны шматлікімі дэталямі і сімваламі лісоў, кароны, арла, левіяфана і іншых біблейных звяроў. Месца, у якім захоўваліся пергаментныя скруткі Торы, заслонена было багата ўпрыгожанай заслонкай (парохетам).

Інтэр'ер сінагогі асвятляўся нізка завешанымі фантастычных кшталтаў лямпамі. Настрой рэлігійнай узвышанасці ўзмацняла святло, якое ўлівалася з высока размешчаных паўкруглых акон, калі ніжняя частка сінагогі патанала ў змрочнасці. Бляску і пышнасці малітвам прыдавалі літургічныя прадметы і начынне з каштоўных металаў, упрыгожаныя такімі ж камянямі.

У галоўнай зале прабывалі толькі мужчыны. Жанчыны збіраліся ў бабінцах — бакавых прыбудовах. На фасадзе Вялікай Сінагогі ў Орлі відней надпіс: „О, як жа страшнае гэтае месца! Гэта не што іншае, толькі дом Божы" (Быццё, 28: 17). Уваход у заходняй сцяне асветлены быў двума ліхтарыкамі. На пярэднім франтоне змешчана была аграмадная зорка Давіда.

Арлянскую Вялікую Сінагогу акалялі яшчэ дзве меншыя драўляныя бажніцы, дом рабіна і яўрэйская лазня. Сінагога стаяла непадалёк рынку, пры якім было многа яўрэйскіх дамоў, крамаў і пляцоў. Згодна з рэлігійнымі законамі была яна зніжана ў параўнанні з узроўнем вуліцы, паколькі ў 130 псалме сказана: „З глыбіні клічу Цябе, Госпадзе". Адчынялася яна толькі па суботах і важнейшых рэлігійных ды дзяржаўных святах. Пры царах маліліся ў ёй за поспехі чарговых цароў, а ў міжваенны перыяд падчас святкавання 3 Мая, 11 Лістапада спраўляліся ўрачыстыя набажэнствы за поспехі Маршалка і Прэзідэнта Рэчы Паспалітай. 18 мая 1907 года царкву ў Орлі наведаў епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Міхал. Хлебам-соллю віталі яго таксама і арлянскія яўрэі.

Вялікая Сінагога была таксама месцам вывучэння Свяшчэннага Пісання і адміністрацыйным цэнтрам кагалу. Побач галоўнай бажніцы знаходзіўся вялікі стары яўрэйскі могільнік (сёння яго ўжо няма). Каменныя надмагільныя пліты падчас акупацыі немцы скарысталі для будовы дарог. На новым могільніку да нашага часу захавалася яшчэ 50 пліт.

18 мая 1938 года вялікі пажар Орлі знішчыў палову мястэчка — згарэла 540 будынкаў, у тым ліку дзве драўляныя бажніцы, дах і часткова сцены Вялікай Сінагогі, якую хутка адбудавалі. Апошнім рабінам у Орлі быў Эля Гальперн.

У час гітлераўскай акупацыі немцы зруйнавалі сінагогу, а на даху змясцілі „гнездо" — назіральны пункт. Пасля 1945 года былі разабраны бакавыя бабінцы. З часам будынак лёг у руінах. З браку фінансавых сродкаў не ажыццявілася задуманая ў 1950-х гадах канцэпцыя адаптаваць будынак сінагогі на дом культуры. Шмат гадоў выкарыстоўваўся ён як склад.

У 1980-х гадах на сродкі Ваяводскага рэстаўратара помнікаў і Ваяводскага фонду культуры быў праведзены капітальны рамонт даху, фасада і перакрыццяў, зроблены каналы цэнтральнага ацяплення, адбудаваны бакавыя бабінцы, пастаўлены медныя вадасцёкавыя трубы ды аконная і дзвярная сталярка.

За апошнія два гады Управа гміны ў Орлі пачала ставіць агароджу, але ўжо некаторыя слупы знішчаны. Завяршэння гэтых работ пакуль што не відаць. Гмінныя ўлады адмовіліся пераняць будынак сінагогі на сваю ўласнасць і цяпер належыць ён дзяржаўнай казне. Хаця рамонт не быў даведзены да канца, рыштаванні разабралі. Часткова рамонты не спынілі працэсу разбурэння. Аграмадны будынак сінагогі ўсё чакае ўладальніка або добрага гаспадара, які верне яму даўнюю прыгажосць і выкарыстае ў адпаведны спосаб. Неадкладна трэба агарадзіць яўрэйскі могільнік, каб забяспечыць астаткі надмагільных пліт і ўшанаваць памяць пахаваных там людзей.

**Міхал Мінцэвіч**

«НІВА»

**Сямён Шарэцкі** — старшыня звержанага Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якому раней двойчы не ўдалося выехаць з Беларусі, урэшце змог па запрашэнні маршалка Сейма **Юзэфа Зыха** наведаць Варшаву. У Сейме сустрэўся ён з пасламі польска-беларускай парламенцкай групы. Пасля размовы са старшынёй ВС маршалак Зых сказаў, што падчас сустрэч з прадстаўнікамі парламентаў дзяржаў Еўрапейскага Саюза і НАТО будзе ён прадстаўляць сітуацыю ў Беларусі, накрэсленую яму Шарэцкім. Старшыня ліквідаванага прэзідэнтам Лукашэнкам беларускага парламента падзякаваў Польшчы — ейнаму прэзідэнту і маршалку Сейма — за падтрымку, аказаную беларускаму парламентарызму ў цяжкі час. Шарэцкі праінфармаваў таксама, што Камітэт абароны дэмакратыі, якому ён старшынствуе і ў якога састаў уваходзяць аграрная, камуністычная, грамадзянская ды сацыял-дэмакратычная партыі і Беларускі народны фронт, неўзабаве пераўтворыцца ў партыю Дэмакратычная Беларусь.

**Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!!!**

# Дзьве краіны

ЛіМ

Улетку 1993 г., калі краіна ўжо амаль два гады як была незалежнаю, выпускнікі школаў атрымалі першыя беларускія атэстаты. Дакумент быў не савецкі, новы: на кожнай старонцы — "Пагоня". І папера добрая, з вадзянымі знакамі. Варта было паглядзець на святло, як праз герб праступалі чатыры цёмныя літары — СССР.

Я не ведаю, дзе друкаваліся тады гэтыя атэстаты — у Маскве ці ў нас, хто іх такія зрабіў, але ўсё атрымалася вельмі сімвалічна...

Некаторыя журналісты называюць Беларусь краінаю падвойных стандартаў. Здавалася б, з гэтым сцверджаннем нельга не пагадзіцца, можна нават прывесці прыклады, якія будуць падмацоўваць яго: пускаюць пад нож школьныя падручнікі па гісторыі, але не забараняюць пакуль што іхнім аўтарам выкладаць у ВНУ; выбарчыя бюлетэні друкуюць на дзвюх мовах (у нас жа цяпер дзве — дзяржаўныя), а грошы — толькі па-беларуску (хутчэй за ўсё, яшчэ па інерцыі). У палітычным плане ў Беларусі несвабодна, а ў сферы культуры і мастацтва — рабі што хочаш, адно каб не тычылася палітыкі. БТ, як і расійскае НТВ, можа паказаць нам з экрана голаес цела, ды вось пагуляцца ў свае "Лялькі" ("Куклы") — не.

Але краінай, дзе сапраўды панаваў падвойны стандарт зусім нядаўна быў стомлены ад свайго існавання Савецкі Саюз. Усе засвойвалі, што ўласнасць у СССР агульнанародная, і разам з тым ведалі, што належыць яна канкрэтным высокім асобам; замежнікаў, "капіталістаў" не надта любілі, але звыклай карцінай быў зачынены на спецабслугоўванне "інтурыстаў" рэстаран, куды ў гэты час не мог патрапіць ніводзін "просты савецкі" чалавек; лаялі гнілы капіталізм і бегалі ў пошуках імпартовага абутку, адзення, тэхнікі, ці проста — было прыемна пагартаць прыгожы замежны каляровы часопіс; Канстытуцыя сцвярджала адно, жыццё — доказвала іншае. У БССР Купалу называлі Народным паэтам і не друкавалі падцэнзурных "Тутэйшых", шматлікія вершы й артыкулы...

Насамрэч сённяшнюю Беларусь нельга назваць краінай падвойных стандартаў. Бо яна сама — "падвойная". Ёсць дзве Беларусі — першая з іх аформлена юрыдычна як дзяржава, але не жыве сапраўдным, поўным, нацыянальным жыццём. Такому жыццю ў ёй свядома не даюць нарадзіцца. Другая Беларусь існуе як ідэя, не ўвасобленая ў палітыцы; гэта краіна — уяўленне, краіна — мара. У першай вызнаюць права-слаўны атэізм і будуюць рынкавы сацыялізм, у другой існаванне такіх парадаксальна-сімбіёзных, мутантавых паняткаў наўрад ці магчымае. Насельніцтву першай дзіўна, незразумела, крыўдна і прыкра, што Беларусь — краіна. Грамадзяне другой прагнуць увасобіць сваю ідэю ў рэальнасць, чаго ім усё яшчэ — у які ўжо раз — не ўдаецца.

**Аляксей ШЭІН**

# Выгнаньнік

25 кастрычніка 1991 года далёка ад Радзімы, не ўшанаваны ёю і як бы выкраслены з памяці са зразумелай (але недаравальнай) перасцярогай, памёр Антось Галіна — Міхаіл Міхайлавіч Міцкевіч, малодшы брат Якуба Коласа. Беларуская дыяспара ў Злучаных Штатах і наша Бацькаўшчына страцілі вельмі шчырага, сумленнага і справядлівага абаронцу нацыянальнай спадчыны, чалавека вялікай душы, які пакінуў светлы след у сэрцах тых, хто яго ведаў.

На жаль, пра малодшага брата Якуба Коласа, пра яго лёс вельмі мала што ведаюць на Радзіме. Быў час, калі не ўсё можна было гаварыць, асабліва пра тых, хто нейкім чынам з'ехаў за мяжу. Значыць, лічылі ў афіцыйных колах, меў якуюсь віну перад народам. Таму на натуральнае пытанне наведвальнікаў музея Якуба Коласа пра малодшага брата паэта супрацоўнікі ніякавата паціскалі плячыма... Сёння ёсць магчымасць сказаць праўду пра нашага земляка, жыццё якога ў нейкай меры варта назваць трагічным, бо прайшло яно на чужыне, у вечнай тузе па родных мясцінах, з балючым усведамленнем неўзаемнасці гэтай любові...

Міхаіл Міхайлавіч нарадзіўся ў 1897 годзе ў Альбуці. Гадаваўся на ўлонні прыроды, у штодзённых дружалюбных стасунках з ёю праходзіла дзяцінства Міхася.

У пачатковай школе ў Мікалаеўшчыне ён вучыўся добра, балазе што дзядзька Антось яшчэ да школы навучыў яго грамаце. Пасля хлопец працягваў вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе атрымаў прафесію настаўніка пачатковых вучылішчаў. Да пачатку Другой сусветнай вайны яго жыццё не было пазначана асаблівымі падзеямі: займаўся сельскай гаспадаркай, вёў культурна-асветніцкую работу. Рупіўся, каб родная мова не ўмёрла, каб гучала на Бацькаўшчыне беларуская песня. У час нямецкай акупацыі працаваў на радзіме ў сістэме адукацыі. Вядома, што ён меў сувязь з партызанамі, дапамагаў ратавацца палонным.

Надышоў 1944 год. Заходняя Беларусь, вызваліўшыся ад польскай улады, вытрымаўшы фашысцкую навалу, не паспеўшы перавесці дыханне ад спусташальнага заходняга ветру, адчувала новы навеў — з усходу. І каго-нікого ён таксама пужаў — невядомасцю, трывожным прадчуваннем. Сорак чацвёрты стаў паваротным годам у жыцці Міхася Міцкевіча, хоць, па сутнасці, ніякай віны яго перад савецкай уладай не было.

Ён вырашае ехаць за мяжу. Сястра Міхаліна, расказвала, як цяжка далося яму гэтае рашэнне, як пакутліва ён раздумваў над ім. Можа і праўда, незвычайны сон, які сасніў ён пад час гэтых разваг, вызначыў яго лёс?

А ўбачыў Міхаіл Міхайлавіч у сне яліну, якая хісталася ад ветру то на ўсход, то на захад, нахіляючыся да самай зямлі. А вяршыня яе была ўквечана галавой "правадыра ўсіх народаў". Елка схілялася ўсё ніжэй і ўрэшце рэшт легла на зямлю галавой — вяршыняй на захад. Міхаіл Міхайлавіч гаварыў, што гэты сон наканаваў яму эміграцыю. Неўзабаве ён развітаўся з Радзімай. У той час яму ўжо быў вядомы лёс дзядзькі Язэпа Лёсіка, які загінуў у Саратаўскай турме. Асцерагаючыся рэпрэсій, а таксама, па словах сястры Мані, адчуваючы, што яго праца на акупіраванай тэрыторыі можа "кінуць цень на Костуся", Міхась рушыў на захад.

Жыў у Чэхаславаччыне, цясляры́ў там. Потым пераехаў у Заходнюю Германію, быў інспектарам пачатковых беларускіх школ, якія дзейнічалі ў лагерах, выдаваў беларускія чытанкі.

У 1950 годзе Міхаіл Міхайлавіч пераехаў у Нью-Йорк, дзе займаўся навукова-даследнай працай, пісаў чытанкі для вучняў малодшага ўзросту, даследаваў творчасць Якуба Коласа, узяўшы за аснову "Новую зямлю". Ён быў не толькі рэдактарам газеты "Беларус" у свабодным свеце, але і рэдактарам часопіса "Голас царквы". Да канца сваіх дзён матэрыяльна дапамагаў царкве, дзе ён працаваў аж да пенсіі наглядчыкам.

Псеўданім Міхаіла Міцкевіча "Антось Галіна" не выпадковы. Дзядзька Антось быў ягоным куміры і дарадцам, самым блізкім сябрам, таму, каб захаваць гэтую святую памяць, ён назваўся Антосем Галінай — напэўна, усведамляючы глыбокую сувязь з каранямі роду Міцкевічаў. Максім Гарэцкі высока цаніў творчасць Міхася Міцкевіча. Ён пісаў: "Вельмі спадзейны і паважаны публіцыст". Мікола Пруські, сваяк дзядзькі Міхася, выдавец часопіса "Беларускі свет" у Амерыцы, прыгадвае: "Дзядзька Міхась і Бацькаўшчына былі нібы параднёнымі... Гэта быў добрай душы і цудоўны чалавек, вялікі патрыёт і любіў сваю Бацькаўшчыну, як нешта святое".

Гэта толькі невялічкі аповяд пра малодшага брата Коласа. Матэрыялы пра яго патрэбна збіраць і даследаваць. Ён быў усебакова развітым чалавекам, шмат пісаў, друкаваўся ў перыядычным друку і іншых выданнях, пачынаючы з 1918 года. Тэмай яго апавяданняў, артыкулаў было жыццё сялян, семінарыстаў, настаўнікаў. У апошнія гады свайго жыцця ён пераклаў на беларускую мову Напрастольнае і Паспалітае Евангелле, якое друкавалася ў Амерыцы.

Таму варта, каб Бацькаўшчына мела памяць пра свайго сына, каб не была забыта яго магіла на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, дзе пахаваны наш зямляк.

**Мікола ЖЫГОЦКІ,**
**супрацоўнік літаратурнага музея Якуба Коласа.**

*"Наша Слова"*

Чаму "Выгнаньнік"? Дзядзьку Міхася ніхто з Беларусі не выганяў, ён сам яе пакінуў. Што дзядзька памагаў палонным — праўда, а што меў сувязь з партызанамі — няпраўда...

# Навагодні падарунак беларусам ад Ельцына.

«НІВА»

13 студзеня паводле новага стылю, а 31 снежня паводле старога, усе інфармацыйныя агенцтвы свету аб'явілі, што прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын выказаў волю аб'яднаць сваю краіну з Беларусcю. Ад двух гадоў палітыку ў гэтым напрамку праводзіў „управляющий государством Беларусь" Аляксандр Лукашэнка. У 1994 годзе, зараз пасля выбару Лукашэнкі на пост прэзідэнта, аб'явіў ён гатоўнасць ісці на каленях у Маскву і прасіць тамашніх гаспадароў прыняць Беларусь у расійскую супольнасць. Тады, аднак, сярод кіраўнікоў Расіі шмат было людзей, якія ці гэта па прычыне сваіх пераканананяў, ці звычайнай моды, называлі сябе дэмакратамі і з лёгкай пагардай ставіліся да найвышэйшага ўрадніка з Менска. Лукашэнка пачаў тады інтэграцыю нават супраць волі крамлёўскіх кіраўнікоў. Пры дапамозе хлусні, дэмагогіі і рэферэндумаў ліквідаваў усе прыкметы дзяржаўнай і нацыянальнай самастойнасці. Перачакаў ён расійскую кан'юнктуру на дэмакратыю, пакуль месца Гайдараў і Яўлінскіх на палітычнай карце Расіі занялі Жырыноўскія, Зюганавы, Лебедзі. Напярэдадні 1997 года (паводле старога стылю) прэзідэнт Беларусі атрымаў доўгачаканы падарунак. Цяжка хворы Ельцын даў дазвол на далучэнне Беларусі да Расіі, стварэнне дзяржавы з адным урадам, гаспадаркай, валютнай палітыкай. У рэчаіснасці — гэта зялёнае свята для фармальнай ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці. Некаторыя еўрапейскія каментатары хацелі б бачыць заяву прэзідэнта Ельцына як вынік палітычнай гульні, якую ён праводзіць з Паўночнаатлантычным пактам, але для будучыні Беларусі не мае вялікага значэння, па якіх прычынах можа загінуць дзяржава.

Вядома, як у такой сітуацыі трымаўся б кожны еўрапейскі народ. Свабоды ў канцы сталі патрабаваць сербы і балгары. У Рэспубліцы Беларусь сярод разгубленай, няшчаснай савецкай масы ніхто нават не заўважае болю беларусаў, якім чарговы раз у гэтым стагоддзі топчуць нацыянальную годнасць, Бацькаўшчынай гандлююць як таварам, апаганьваюць родную мову і культуру. Выглядае на тое, што ў недалёкай будучыні чарговыя пакаленні беларусаў вымушаны будуць ад пачатку змагацца за незалежнасць, якую ў 1990 годзе падаравала нам гісторыя.

# ШТО РАБІЦЬ З БЕЛАРУСЬСЮ?

**Пасьля рэферэндуму на Беларусі склалася дзіўная сітуацыя. Парламант, які прызначыў прэзідэнт, не прызнала ніводная еўрапейская краіна, акрамя Расеі. Аляксандр Лукашэнка ігнаруе прынятыя ў цывілізаваным сьвеце дэмакратычныя нормы. Але Беларусь займае адно з найважнейшых геапалітычных становішчаў у Еўропе. Ігнараваць нашую краіну суседзі ня могуць.**

Што рабіць з Беларусьсю? На гэтае пытаньне 15 сьнежня ў інтэрв'ю прагране польскага тэлебачаньня «Дзяржаўныя інтарэсы» адказваў прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі.

«Як гаварылася ў супольнай заяве прэзідэнтаў Польшчы, Летувы і Украіны, а таксама ў маім выступе ў Лісабоне, Еўропе патрэбная сувэрэнная дэмакратычная Беларусь. Мы зацікаўленыя, каб гэты край мог увайсьці ў сям'ю еўрапейскіх дзяржаваў, меў шанц разьвіцьця эканомікі.

Але нельга ствараць дэмакратыю праз ламаньне яе падставовых нормаў. Прызначэньне парламанту, парушэньне правоў чалавека, абмежаваньне свабоды слова. Гэта факты, якія нас непакояць і не дазваляюць быць абыякавымі да таго, што робіцца на Беларусі.

У справе абароны дэмакратычных каштоўнасьцяў палітыка Польшчы павінна быць цьвёрдай. Я лічу, што падзеі апошніх месяцаў не дазваляюць сумнявацца ў гэтым. Маю на ўвазе дзеяньні нашага парламанту, Міністэрства замежных справаў і мае як прэзідэнта.

З іншага боку, мы ня можам адпіхваць Беларусь на дарогу з адным накірункам. А накірунак гэты - Расея. Таму трэба падтрымліваць гаспадарчыя сувязі. Неабходна ўсё рабіць, каб мяжа была празрыстай. Супрацоўнічалі грамадзкія арганізацыі. Адбываліся навукова-культурныя абмены.

Мы павінны вырашыць, як, не зьмяняючы нашых крытычных адносінаў да дзейнасьці беларускіх уладаў, утрымоўваць кантакты з Беларусьсю. На шчасьце, Беларусь - гэта ня толькі прэзідэнт. Беларусь - гэта грамадзтва, розныя яго структуры. Трэба з імі супрацоўнічаць. Ня можам адвярнуцца ад Беларусі.»

«Пагоня» **Д.К.**



БЕЛАРУСЬ — вялікая Дуля МАСКВЕ...


— А сёчас вып'ем за праваслаўна-этаістычную, славянска- рускую імперыю!..


У мінулым годзе ў Менску розныя сталінцы і бэр'еўцы так адзначалі дзень "акцябрскай" рэвалюцыі...

# АПОШНІЯ НАВІНЫ

25-га студзеня ў Менску больш як 6,000 чалавек дэманстравалі ў падтрымку папулярных рухаў у Сэрбіі і Баўгарыі. Беларускі Народны Фронт дамагаўся новых парлямэнтарных выбараў і заклікаў да процідзеяньняў у справе агранічэньня свабоды. Выказваліся абвінавачваньні Расеі, якая стараецца акупаваць Беларусь.

Выкрыкваючы анты-рускія лозунгі дэманстранты пайшлі пад Рускую Амбасаду, якую ахоўвалі моцныя кардоны міліцыі. Сур'ёзных сутычак з міліцыяй ня было.

У міжчасе спэцыяльная місія з трох вельмі ўплывовых эўрапейскіх арганізацыяў пачала сваю працу ў Менску вывучаючы палітычную сытуацыю ў краіне. Гэтая місія будзе прыдаваць асаблівае значаньне апошняму рэфэрэндуму...

* * *

17-га студзеня ў Гомелі адбылася даволі загадковая сустрэча прэзыдэнтаў Украіны і Беларусі. Аб чым была гутарка на гэтай сустрэчы, можна толькі дагадвацца... Афіцыяльныя паведамленьні веры не выклікаюць...

* * *

А. Лукашэнка паніжыў у пасадзе Ўл. Замяталіна, блізкага памочніка і прыхільніка пра-расейскае палітыкі. Ён пераведзены ў дзяржаўны камітэт прэсы. Ул. Замяталін ведамы староньнік пан-славізму і інтэграцыі з Расеяй. Ён заядлы рускі шавініст, былы КГБіст і ненавісьнік усяго беларускага. Цяпер ён будзе старацца зрусыфікаваць і так зрусыфікаваную беларускую прэсу і іншыя выданьні...

* * *

Нядаўна А. Лукашэнка падпісаў указ аб звальненьні ад пасады начальніка Нацыянальнага Банку Беларусі Тамары Віньнікавай. Ёй закідваецца "злоўжываньне службовымі палажэньнямі" і прычаснасьць да страты дзяржаўных рэсурсаў у вельмі вялікіх размерах. Яна арыштавана міліцыяй. Вядзецца сьледзтва...

* * *

На 1/3 падарожаў праезд у Менскім мэтро. Відаць у такім разьмеры падаражаюць праезды і на іншых відах транспарту Беларусі. Таксама падаражалі многія малочныя і мясныя прадукты, цукар і заграічныя цыгарэты. Прадбачаецца, што ў Беларусі хутка ўзьнікне чорны валютны рынак...

* * *

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімер Сенько здаў, ці яго прымусілі здаць, сваю пасаду. І хоць Ул. Сенько быў чалавекам поўнае прарасейскае арыентацыі, у каманду рускіх шавіністаў, якія цяпер кіруе Беларусьсю, ён чамусьці не ўпісаўся... Яго месца заняў Іван Іванавіч Антановіч, чалавек вельмі нізкага профілю.

Іван Антановіч мае загад пераліцаваць беларускі дыпляматычны корпус і ўкаплектаваць яго «лукашэнкаўцамі і расейцамі». Новым амбасадарам у Вашынгтон назначаны В. Цэпкало... , а Ул. Сенько паедзе на такую самую пасаду ў Францыю...

Ведаючы пра цеснае сяброўства Івана Антановіча з Е. Прымаковым, Захад вельмі ўважна прыглядаецца да новых перастановак...

* * *

10-га сьнежня 1996 г. памёр у Рыме, — Італія, кіраўнік Беларускай праграмы Ватыканскага радыё айцец Робэрт Тамушанскі. Айцец Робэрт нарадзіўся ў 1940 г. у ЗША. Быў ён адным з тых беларускіх каталіцкіх сьвятароў, што сваёю духоўнаю працай шмат зрабілі добрага на ніве рэлігійнага і нацыянальнага жыцьця ў Замежжы. Вечная памяць!

* * *

24-га студзеня міністр замежных спраў Расеі, Е. Прымакоў сустрэўся ў Маскве з Іванам Антановічам, новым міністрам замежных спраў Беларусі. Іван Антановіч, ведамы пра-маскоўскі слугач, гатоў зрабіць усё, што прыкажа яму Е. Прымакоў.

У гэты самы час А. Малафейкін і П. Шэпук (лукашэнкаўцы) абгаварвалі ў Маскве са сваімі аднадумцамі справы далучэньня Беларусі да Расеі...

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Мае дарагія Мікола з сям'ёю!

Што добрага ў Вас чуваць?... У мяне добрага нямнога, але злога то хапае. Баліць мая нага і дактары (а іх тры) сказалі, што трэба ісьці на апэрацыю. За тыдзень пайду на апэрацыю... Жадаю Вам усім здароўя і шчасьця ў Новым 1997 Годзе.

Высылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты. Хай Бог памагае ў тваёй працы!

Усяго найлепшага, К.

*Дзякуем за ахвяру і ў сваю чаргу жадаем добрага і моцнага здароўя ды ўсяго найлепшага ў жыцьці.*

Даражэнькі Мікола!

Пасылаю скромную ахвяру на газэту і адначасна ад шчырага сэрца жадаю, каб Бог даў Табе многа сілы і здароўя для так карыснай і патрэбнай працы для дабра нашай Бацькаўшчыны Беларусі. Жыве Беларусь!

З пашанай, Б. Д.

*Прымеце ад нас найшчырэйшыя пажаданьні ўсяго найлепшага, а асабліва моцнага здароўя.*

Дарагі а Паважаны Сп-ру Прускі!

Вельмі дзякую за прысланыя часапісы, асабліва-ж за каляндар. Відаць, ёсьць яшчэ людзі ў Беларусі, якія не паддаліся Лукашэнкам, Замяталіным ды іншым Квіслінгам, а надалей намагаюцца пісаць і выдаваць матэрыялы ў беларускай мове. Жыве яшчэ Беларусь! Перасылаю ахвяру на выдавецкія кошты.

З пашанаю, М. С.

*За ўсё шчыра і моцна дзякуем!*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую Вам за "Беларускі Дайджэст". Заўсёды з вялікім зацікаўленьнем чытаю газэту. Усе падзеі, якія здарыліся ў мінулым годзе ў Беларусі вельмі-ж усхвалявалі маю душу. Як прыкра, што наш беларускі народ яшчэ ніяк не можа пазбыцца "савецкай псыхікі", якая давядзе наш край да руіны.

Вось такі прыклад дае сам Лукашэнка і яго памагатыя, выхаванцы савецкай структуры.

Пасылаю ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Жадаю Вам і Вашай Спадарыні добрага здароўя ды ўсяго найлепшага ў Новым Годзе.

Шчырыя прывітаньні, Ваша О. Г.

*Вам таксама жадаем усяго найлепшага, асабліва моцнага здароўя.*

Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за газэту. Вельмі інфарматыўная. Не спыняйце выдаваць.

Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

З пашанаю, М. Г.

*Выдаваць газэту ня так проста і лёгка... Аднак справы не безнадзейныя. Хацелася-б, каб беларускія арганізацыі і цэрквы пачалі дапамагаць нашай выдавецкай дзейнасьці. А газэта патрэбная... бо беларуская прэса ўзмацняе грамадзкае, культурнае і палітычнае жыцьцё беларускага Замежжа. Патрэбная лепшая падборка надзёных матэрыялаў, а дзеля гэтага патрэбная агульная, пазапартыйная падтрымка і дапамога... Прывітаньні!*

Дарагі Мікола!

Шчыра дзякуем за "Дайджэст". Вельмі цікавы зьмест і для нас эмігрантаў карысны. Падаецца ўся праўда, што дзеіцца ў Беларусі, без ніякіх ухілаў, каб нейкага там не зачапіць...

Газэту перасылайце на мой адрас... Залучаем ахвяру на выдавецкі фонд. Жадаем плённай працы.

В. Ц.

*Дзякуем за прыязныя словы і просім дапамагаць нам у пашырэньні нашага выданьня ды не забывацца аб матэрыяльнай падтрымцы...*

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ...

**Паведамляем, што ўсім тым, хто ніколі не адгукнуўся на нашу просьбу дапамагчы нашаму выдавецтву, — нашу газэту высылаць больш ня будзем... Sorry!**

## Амерыка не будзе прасіць прабачэння

**Мэр Нью-Йорка Рудольф Джуліані заявіў, што амерыканскі бок не намераны прыносіць прабачэнні Расіі і Беларусі ў сувязі з інцыдэнтам, які меў месца 29 снежня, калі паліцыя затрымала двух дыпламатаў.**

Нагадаем, што першы сакратар прадстаўніцтва Беларусі пры ААН Юрый Оранж і першы сакратар расійскага прадстаўніцтва Барыс Абносаў былі затрыманыя і дастаўленыя ў паліцэйскі ўчастак. Паліцыя сцвярджае, што яны былі ў нецвярозым стане, але збіраліся кіраваць аўтамабілем. Пры затрыманні яны аказілі фізічнае супраціўленне. Па сведчаннях паліцыянтаў, расіянін адмовіўся паказаць свае вадзіцельскія правы, а беларускі дыпламат кінуўся абараняць яго. Р.Джуліані таксама паведаміў, што толькі за першую палову 1996 г. 122 аўтамабілі расійскай місіі пры ААН атрымалі 14.437 папярэджанняў, а 15 аўтамабіляў беларускай місіі — 828 папярэджанняў.

У той жа час дыпламаты працягваюць сцвярджаць, што паліцыя паводзіла сябе некарэктна і груба парушыла іх дыпламатычную недатыкальнасць. На спецыяльнай прэс-канферэнцыі, якую Ю.Оранж і Б.Абносаў правялі ў аўторак, 7 студзеня, яны паведамілі, што паліцыянты падчас затрымання у непрыстойных выразах выказваліся на адрас Беларусі і Расіі. *«У зале знаходзяцца жанчыны, таму мы не можам паўтарыць словы, якія пачулі»*, — заявілі дыпламаты.

Між тым афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Нікалас Бэрнс паведаміў, што знешнепалітычнае ведамства ЗША чакае канчатковы вынікаў расследавання па гэтай справе.

**М.Н.**

## Прыстасаванец

Даўно па правілу ён жыў:
З начальствам будзь авечкай,
Сказалі — дык ламаў крыжы,
Цяпер стаіць са свечкай.

І калі новы хтось яму
Дасць новае ўказанне,
Заменіць кепку на чалму
Ці зробіць абразанне.

**Аляксей Каўко**

### Ня бачыць, але ведае.

Пляменьніца вельмі багатага сваяка прыходзіць у аддзел па выдачы візаў і просіць замежны пашпарт, каб выехаць у Амэрыку — дзядзька асьлеп і яму патрэбная дапамога.

— А чаму-б вам не запрасіць дзядзьку сюды? — кажуць пляменьніцы. — Ён-бы прыехаў са сваім багацьцем сюды, а вы-б яго тут даглядалі.

— Вы, пэўна мяне не зразумелі, — кажа жанчына. — Мой дзядзька асьлеп, але-ж не зьехаў з глузду.

## Няўжо цяпер анекдоты будуць расказваць не пра чукчу, а пра беларуса?

На такое пытанне наводзяць вынікі рэферэндуму, аб чым гаварыў адзін дэпутат у Авальнай зале. Аказваецца, беларусы выказаліся супраць таго, каб фінансаванне ўсіх галін улады вялося адкрыта. Выходзіць, народ хоча, каб гэта было закрыта ад яго, каб ніхто не ведаў, колькі грошай ідзе праз рахункі кіраўніцтва справамі Івана Ціцянкова, колькі — праз Міністэрства фінансаў і г.д. Ён не згадзіўся і з тым, што фінансаванне чыноўнікаў павінна весціся толькі з дзяржаўнага бюджэту. Значыць, яны могуць браць грошы і з рук мафіёзных структур. Ствараем сапраўды крымінальную дзяржаву. Свет такога яшчэ не бачыў...

Вось табе і разумны, адукаваны, таленавіты народ, як кажа прэзідэнт. Але з гэтых вынікаў ужо смяецца свет. Як і з таго, што насельніцтва быццам выказалася і супраць выбару сваіх мясцовых начальнікаў. Яно, бачыце, згодна лепей жыць пад кіраўніцтвам тых, каго да іх прышлюць і каго ніяк яны не могуць вызваліць ад пасады, якія б здзекі ён ім ні ўчыняў.

Вось да чаго прывяло абалваньванне народа. І таму дэпутат з горыччу зазначыў, што цяпер, відаць, анекдоты пра чукчу знікнуць. Будуць — пра беларуса.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**